ВАЛЯНЦІНА ЛЕБЕДЗЕВА

# ПАКЛІКАНАЯ СВАБОДАЙ:
## НАРЫС ЖЫЦЦЯ І ДЗЕЙНАСЦІ
# ПАЛУТЫ БАДУНОВАЙ



ДА 100-ГОДДЗЯ БНР

Гомель, 2018

УДК 94 (476)
ББК 63.3 (4Бел)
Л 33

Аўтар выказвае паддзяку за дапамогу ў зборы матэрыялаў гісторыкам і архівістам:
М. Алейнікавай, Н. Стужынскай, В. Зубко (Украіна),
А. Кіштымаву, У. Ляхоўскаму, Ю. Глушакову.

**Лебедзева, В.**
Л 33 Пакліканая свабодай: нарыс жыцця і дзейнасці Палуты Бадуновай. – Гомель: На правах рукапісу, 2018. – 80 с., іл.

**Выданне прысвечана жыццю і дзейнасці ўраджэнкі Гомеля, народнага сакратара Беларускай Народнай Рэспублікі, лідэра Партыі беларускіх эсэраў Палуты Бадуновай – палымянай змагаркі за беларускае дзяржаўна-нацыянальнае вызначэнне. Заснавана на архіўна-дакументальных матэрыялах. Адрасавана ўсім, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі XX ст.**

**УДК 94 (476)**
**ББК 63.3 (4Бел)**





ЗМЕСТ



БНР 100

зей і помсціла іх блізкім. У гэтым сэнсе яшчэ больш трагічным аказаўся лёс іншых прадстаўнікоў сям'і Бадуновых. Хоць усе браты і сёстры Палуты лаяльна паставіліся да савецкай улады і сумленна працавалі на яе карысць, жорны сталінскіх рэпрэсій не абмінулі і іх. У ГУЛАГу загінулі мужы дзвюх яе сясцёр. Пяць год правяла там Марыя. Брат Аляксандр усё жыццё заставаўся падазронай асобай, хоць займаў сціплыя пасады службоўца на навабеліцкіх прадпрыемствах і быў непрычынны да палітыкі. У сям'і захоўвалася ўпэўненасць у невыпадковасці раптоўнай і ранняй смерці двух сыноў сястры Анатоліі, якія працавалі ў канцы 1930-х гадоў у савецкіх цэнтральных газетах "Правда" і "Известия".

Палітычная рэабілітацыя Палуты Бадуновай адбылася напярэдадні набыцця Беларуссю самастойнай і суверэннай дзяржаўнасці, калі важнымі і запатрабаванымі сталі гістарычныя прыклады, сімвалы, імёны, звязаныя з барацьбой за нацыянальнае самавызначэнне. Тым не менш, імя П. Бадуновай і сёння застаецца малавядомым не толькі шырокай грамадскасці, але нават і спецыялістам-гісторыкам. Ні ў сталіцы краіны, ні ў родным Гомелі няма не толькі помніка, але і памятнага знака ці названай у яе гонар вуліцы, адсутнічаюць экспазіцыі ў музеях. Будзем, аднак, спадзявацца, што наступаючы 100-гадовы юбілей абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі верне гістарычную і чалавечую справядзівасць – імя адной з самых яркіх змагарных жанчын Беларусі будзе ўшанавана памяццю яе суайчыннікаў-нашчадкаў.



**Палута Бадунова**
**(1885 – 1938)**

БНР 100

Марыя выйшла вясной 1943 г., надалей працавала ў вясковай школе ў Саратаўскай вобласці. Два разы – у 1947 і ў 1957 гг. звярталася на імя старшыні Вярхоўнага Савета СССР з хадайніцтвам аб зняцці судзімасці як несправядлівай і кожны раз ёй адказвалі адмовай. Вярнуцца ў Беларусь Марыя Бадунова змажа толькі праз 20 год, пасля XX з’езда КПСС, які выкрыў «культ асобы Сталіна» і рэабілітаваў рэпрэсаваных шараговых сяброў небальшавіцкіх партый.

І пакаранне, і рэабілітацыя Палуты былі значна больш пакутлівымі. Прысуд аб смяротным пакаранні быў прыведзены ў выкананне толькі праз паўгода – 29 лістапада 1938 г. [1], што было не выпадкова. Несупадзенне дат падцвярджае версію аб існаванні ў Мінску тайных, нават ад НКУС СССР, калоній зняволеных-смяротнікаў, дзе ўтрымліваліся найбольш “каштоўныя” для нкусаўцаў вязні, да якіх было магчыма прымяняць неабмежаваныя метады следства, бо юрыдычна гэтых людзей ужо не існавала. Калоніі былі знішчаны з пачаткам расследванняў “яжоўскіх злоўжыванняў”, у т.л. і на Беларусі. Апошнія даты жыцця П. Бадуновай сведчаць аб яе магчымым знаходжанні ў адной з такіх калоній.

Рэабілітавана Бадунова Пелагея Аляксандраўна па пастанове Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР 21 чэрвеня 1989 г. “за адсутнасцю склада злачынства”. Але і тады, ужо ў разгар вядомай “перабудовы і галоснасці” савецкія кэгэбісты не раскрывалі праўду пра такіх як Палута, здымаючы адказнасць са сваіх папярэднікаў. Да даведкі пра рэабілітацыю прыкладзена “Заключэнне”: “памерла ў лагеры ад паралічу сэрдца 29.11.1941 г.” [2].

Для сталінскай сістэмы 30-х гг. асобы, падобныя Бадуновай, што на справе ўвасаблялі ідэю дэмакратычнай дзяржаўнасці і культурна-нацыянальнага адраджэння Беларусі, з’яўляліся палітычна небяспечнымі. Сістэма ведала, за што нішчыла такіх люд-




[1]*Архіў УКДБ па Гомельскай вобл. Спр.130\74, л. 18.*
[2]*Там сама.*

ме тагачаснага карнага механізму. Можна з вялікай доляй упэўненасці сцвярджаць, што факт псіхічнага нездароўя, на які ўказвалі сведкі М. Асвяцімскі і А. Бараноўскі і які спрабаваў прадставіць як аргумент ў абарону сястры Аляксандр Бадуноў, быў скарыстаны следчымі ва ўласных мэтах.

Па-другое, дакументы сведчаць, што, ўжо маючы смяротны прысуд, П. Бадунова прыцягвалася як сведка па абвінавачванні сваіх былых паплечнікаў, у тым ліку роднай сястры Марыі, свайго нядаўняга «анёла-ахоўніка». Гэты эпізод следства – ці не самая драматычная старонка ў біяграфіі сясцёр.

Марыю арыштавалі ў сувязі са справай сястры ў Маскве 31 сакавіка 1938 г. Пасля месяца зняволення ў Бутырскай турме «Бадунова М.А., асоба небяспечны злачынца пад спецыяльным канвоем ў асобнай камеры вагонзака, ізалявана ад іншых арыштаваных» перапраўляецца ў Мінск. Сясцёр змяшчаюць у адну і тую ж вязніцу – унутраную турму НКУС БССР.

25 мая 1938 г. яшчэ адна Асобая нарада НКУС БССР вынесла П. Бадуновай прысуд да вышэйшай меры пакарання. Адпаведна уведзенаму з верасня 1937 г. парадку, смяротныя прысуды падлягалі неадкладнаму выкананню. Аднак больш чым праз месяц, 3 ліпеня, следчая група на чале з Кунцэвічам праводзіць вочную стаўку абедзвюх сясцёр. Паказанні Палуты засведчылі, што Марыя не толькі была актыўнай эсэркай, а таксама ўваходзіла ў ЦК БПСР і да апошняга дня вяла нелегальную антысавецкую дзейнасць. Непрызнанне гэтых паказанняў з боку Марыі было расцэнена сястрой як «ложь и нежелание говорить следствию правду»[1].

Асобай Тройкай Марыя была прызнана вінаватай у тым, што, будучы кааптаванай у ЦК ПБСР, сістэматычна праводзіла аж да дня яе арышту антысавецкую агітацыю сярод маскоўскіх выкладчыкаў школ. Прысуд – 5 год папраўча-працоўных лагераў[2]. З лагера




[1] *Архіў УКДБ па Гомельскай вобл. Спр. 8482, л.31.*
[2] *Там сама, л. 149.*



# I. ШЛЯХ З МАЛАДОСЦІ І – ДА БЕЛАРУСІ

Цяжка знайсці больш значнае жаночае імя ў палітычнай гісторыі Беларусі XX ст. як Палута Бадунова. Сябра ЦК Беларускай Сацыялістычнай Грамады, міністр ураду Беларускай Народнай Рэспублікі, сакратар ЦК Партыі беларускіх эсэраў, арганізатар антыпольскага партызанскага руху ў 1919 г., палітычная эмігрантка і рээмігрантка, ахвяра сталінскіх рэпрэсій – усё гэта Пелагея Аляксандраўна Бадунова.

Нарадзілася будучая змагарка за Беларусь 7 верасня 1885 г. у Навабеліцы – прадмесці павятовага па тым часе Гомеля, аддзеленага ад мястэчка ракой Сож. Горад якраз уступаў у перыяд уздыму, прычым настолькі бурнага, што па маштабах і значэнню Гомель неўзабаве перагнаў сваю губернскую сталіцу Магілёў. У 1870–1880-я гг. у горадзе скрыжаваліся дзве важныя чыгункі – Лібава-Роменская і Палеская. За трыццаць наступных год яго насельніцтва павялічылася аж у сем разоў, з'явіліся новыя прадпрыемствы і раёны, расквітнеў гандль і фінансавая актыўнасць, адчыніліся 5 гімназій, пачалі выходзіць каля дзесятка газет.

Гэты працэс закрануў і Навабеліцу, хаця і напрыканцы XIX ст. яна так і не перарасла местачковыя маштабы. Паводле ўсерасійскага перапісу 1897 г. тут налічвалася ўсяго 405 двароў і 2 957 жыхароў, меліся 2 царквы, 2 стараверскія малітоўныя дамы, 3 яўрэйскія малітоўныя школы, а таксама дзейнічала прыходскае вучылішча з жаночай зменай, якое, аднак, уражвала сваёй архітэктурнай манументальнасцю. Прамысловасць прадмесця была прадстаўлена крупадзёркай, ветраком, запалкавай фабрыкай з гучнай назвай "Вязувій" ды канатным заводам. Тым не менш, Навабеліца ганарылася тым, што з моманту свайго заснавання ў канцы XVIII ст. і больш за паўстагоддзя яна апярэджвала Гомель па статусе, з'яўляючыся адміністрацыйным цэнтрам павета, якому дала сваё імя – Беліцкій. Гомель тады падпарадкоўваўся новазаснаванаму не-



вялічкаму мястэчку. Толькі з 1852 г. ролі памяняліся: павет стаў Гомельскім, адміністрацыйны цэнтр быў перанесены ў Гомель, а Навабеліца ўвайшла ў яго падпарадкаванне.

Насельніцтва прадмесця ад моманту яго заснавання было шматнацыянальным. Яго аснову складалі беларусы – колішнія сяляне навакольных вёсак, сселеныя ў новастворанную Беліцу яшчэ ў канцы XVIII ст. Традыцыйна вялікую долю мяшчан складалі яўрэі. Але вядучыя эканамічныя і грамадскія пазіцыі на той час займалі мясцовыя купцы і прадпрымальнікі-стараверы, нашчадкі маскоўскіх раскольнікаў-уцекачоў, якія каланізавалі ўсходнія рубяжы Беларусі яшчэ ў канцы XVII ст.

Па сямейнаму паданню, фамільны радавод адлічваўся ад данскога казака па прозвішчу Бадун, які, нібыта, пасля паўстання Е. Пугачова збег у гэты край і ажаніўся з мясцовай сялянкай, выкупіўшы яе з прыгону.

Жылі Бадуновы ў мястэчку, але бацька, Аляксандр Восіпавіч, арандаваў у наваколіцы невялікі маёнтак, з якога і кармілася вялікая сям'я. Звестак аб маці амаль не захавалася, акрамя таго, што пахавана яна была, як ганаровая прыхаджанка, ля царквы Аляксандра Неўскага – галоўнай мясцовай святыні. Дзяцей у сям'і было сямёра – два сыны і пяць дачок.

Род Бадуновых, па мясцовых мерках, быў ня бедным і імкнуўся да асветы і грамадскай чыннасці. Брат Палуты Данііл атрымаў юрыдычную спецыяльнасць і займаўся страхавой справай у Кіеве, адкуль даволі часта наведваўся ў родныя мясціны. Другі брат, Аляксандр, хаця і меў толькі хатнюю адукацыю, але здабыў значны аўтарытэт сярод мясцовай грамадскасці. Ён неадменна ўваходзіў у кіраўніцтва своеасаблівага «элітарнага клуба» – навабеліцкага аддзялення Вольна-пажарнага таварыства. Гэта папулярная ў тыя часы дабрачынная структура не толькі падтрымлівала пажарную бяспеку, але і з'яўлялася галоўным арганізатарам спартыўнага і забаўляльнага жыцця моладзі. У яе распараджэнні знаходзіўся знакаміты гомель-





вядомай мінскай «амерыканцы». Гэта было звязана з пераходам вышэйадзначанай нкусаўскай аперацыі да другога этапа – выкрыцця шырокага "аб'яднанага антысавецкага падполля ў Беларусі", якое, нібыта, склалася яшчэ ў 1930–1931гг. з "правых, трацкістаў, нацыянал-фашыстаў, эсэраў, бундаўска-сіяністскіх арганізацый і царкоўнікаў"[1].

Адносна Бадуновай без усялякай сувязі з папярэднім прысудам было "выкрыта", што па вяртанні з эміграцыі яна разам з былымі аднапартыйцамі А. Чарнушэвічам (гэтым часам – сакратар ЦВК БССР) і Паўлам Панкевічам (віцэ-прэзідэнт АН БССР) узначаліла падпольны ЦК БПСР. Ніякіх дакументальных альбо фактычных доказаў прад'яўлена не было, але іх і не патрабавалася. "Царыцай доказу" у тагачаснай юрыспрудэнцыі ўжо афіцыйна лічылася ўласнае прызнанне падследнага. Аб сродках здабывання гэтых прызнанняў сёння вядома дастаткова. Тым больш, што справу Бадуновай вёў досыць вядомы "прафесійным майстэрствам" намеснік начальніка 4-га аддзела Упраўлення дзяржбяспекі НКУС БССР Кунцэвіч, які сам праз пэўны час падпадзе пад "чыстку" карных органаў "за фабрыкацыю крымінальных спраў і выкарыстанне незаконных метадаў следства".

Таму не здзіўляюць і паказанні П. Бадуновай: "...ЦК быў звязаны з замежнымі цэнтрамі эсэраў... Яго платформа: адрыў Беларусі ад СССР пад лозунгам стварэння БНР з урадам, які ўзначалілі б беларускія эсэры, беларускія нацыяналісты і палякі. Праводзіць барацьбу ў СССР у здзяйсненні гэтай ідэі ўсімі мерамі на захоп улады, уключаючы інтэрвенцыю, шпіянаж і тэрор"[2].

Зрэшты, справа П. Бадуновай, хаця і з'яўляецца досыць тыповай у шэрагу тысяч сабе падобных, тым не менш, утрымлівае некалькі адметных рыс для характарыстыкі стылю рэпрысіўнай практыкі канца 30-х гадоў. Па-першае, яна сведчыць аб асобым цыніз-

[1] *Платонаў Р.,Сташкевіч М. Дзве аперацыі... – С. 76.*
[2] *Там сама, – С. 76–78.*



гальнага пераходу мяжы Беларусі ў 1923 г., жыццё і кантакты ў Празе. Аб перыядзе знаходжання на Беларусі пасля эміграцыі не было зададзена ніводнага пытання. І тым не менш, абвінавачае заключэнне фармулюе наступную выснову: «Проживая в СССР после возвращения из Чэхословакии, проводила антисоветскую агитацию, проявляла тенденцию снова вернуться в Чехословакию, злобна высказывалась в отношении ВКП(б) и Советского правительства»[1].

Абвінавачанне, хутчэй за ўсё, грунтавалася на паказаннях сведак. Адным з іх стаў Марк Асвяцімскі, які пакуль што (але не надоўга) заставаўся на волі. На пытанні следчых, у якіх пагрозліва вымалёўвалася і ўласная перспектыва, ён якраз і засведчыў, што, жывучы ў Гомелі, П. Бадунова «злобно высказвалась в адрес Советского правительства».

Больш падрабязную карціну «паклёпу на савецкую ўладу і кіраўнікоў партыі» намаляваў другі сведка – сусед, рабочы навабеліцкага завода «Ізапліт». З ягоных паказанняў становіцца зразумела, што Палута сачыла за падзеямі ў палітыцы ВКП(б) і цвяроза ацэньвала іх сутнасць. Але паводзіла сябе зусім неасцярожна: у хлебных чэргах 1936 г., і паўсюдна, дзе яна з'яўлялася, П. Бадунова галосна казала аб тым, што партыя аб рабочых не клапоціцца, больш думае аб уласным дабрабыце. Напярэдадні свайго арышту яна публічна выказалася: «идет уничтожение лучших людей, которые завоевали революцию кровью – Тухачевского, Якира. Но это компартии необходимо, потому что она начинает терять землю под своими ногами, Конституция – ерунда, как и все остальное – для отвода глаз тёмной массы»[2].

З Гомеля П. Бадунову этапіруюць у Мінск, дзе 30 лістапада 1937 г. Асобая тройка НКУС БССР вынесла ёй прысуд – 10 год папраўча-працоўных лагераў[3].

Але прысуд не быў выкананы. Замест ГУЛАГу П. Бадунову пакідаюць ва ўнутранай турме НКУС,




[1]*Архіў УКДБ па Гомельскай вобл. Спр.130\74, л. 17.*
[2]*Там сама, л. 17.*
[3]*Там сама, л. 18.*



скі веласіпедны трэк, іншыя спартыўныя пляцоўкі, аркестр. Аляксандр якраз вёў сакратарскія справы ў гуртку аматараў спорту пры таварыстве[1] . Пад час Першай сусветнай вайны Аляксандр быў прызначаны гомельскім самакіраваннем апекуном над сем'ямі белічан, змабілізаваных у войска, а ў рэвалюцыю прычыніўся да палітычных спраў і быў прызначаны Гомельскай Дэмакратычнай дырэкторыяй камісарам па Навабеліцы.

Лёс сясцёр Бадуновых склаўся па-рознаму. Пелагея, а за ёй і самая малодшая – Марыя, цягнуліся за братамі, захапіліся грамадскай і палітычнай дзейнасцю. Іншыя сёстры засталіся на традыцыйным шляху прыватна-сямейнага жыцця, але і іх не абышлі бурлівыя падзеі часу.

Анатолія Аляксандраўна Бадунова ў будучым стане маці палеглага за рэспубліканскую Іспанію Героя Савецкага Саюза Георгія Склязнёва, чыё імя і сёння носіць адна з вуліц Навабеліцы. Большую частку свайго жыцця яна правядзе ў Маскве.

Яшчэ адна сястра – Анастасія, усё жыццё пражыла ў Навабеліцы, выйшла замуж за вядомага мясцовага прадпрымальніка Рамана Бяздецкага, сябра і паплечніка Аляксандра Бадунова па Вольна-пажарным таварыстве і іншых грамадскіх справах. У савецкі час ён узначаліць пажарную ахову «Вязувія», будзе абвінавачаны ў шкодніцкай дзейнасці пасля пажару на фабрыцы ў 1938 г. і расстраляны па прысудзе «асобай нарады НКУС».

Разам з хлопцамі ў сям'і навучаліся і дзяўчаты – хутчэй за ўсё дома, альбо ў мясцовым прыходскім вучылішчы. Сярод сясцёр прагай да ведаў і літаратурнымі здольнасцямі вылучалася менавіта сярэдняя – Паліна. Па сямейных успамінах, яна магла экспромтам прапанаваць сваім малодшым сёстрам і іхным сяброўкам некалькі варыянтаў школьных сачыненняў на адну і тую ж тэму, пачынала нават пісаць паэму пра гісторыю сям'і. Першай сярод сясцёр яна




[1]*Памятная книжка Могилевской губернии на 1915 г. Могилев, 1915. – С.121.*

наважылася здабыць спецыяльную адукацыю – пасля сканчэння двухкласнай вучэльні ў Буйнічах каля Магілева "выдержала экзамены на звание домашней учительницы русского языка и географии"[1].

Навучанне ў Буйнічах – адметны факт у біяграфіі П. Бадуновай, бо буйніцкая настаўніцкая вучэльня належала не Міністэрству асветы, а Магілёўскай праваслаўнай епархіі. Установы падобнага кшталту былі найбольш даступнымі, але вызначаліся кансерватызмам навучальнага і выхаваўчага працэсу, ды і ўзровень адукацыі ў іх саступаў цывільным. Чым быў абумоўлены такі варыянт адукацыі – рэлігійным духам сям'і альбо матэрыяльнымі матывамі – сказаць цяжка.

Пазней шляхам сястры пайшла малодшая ў сям'і Марыя. Хутчэй за ўсё, следам за Палутай і яна скончыла тую ж Буйніцкую вучэльню, а за савецкім часам працягнула вучобу на сацыяльна-гістарычным факультэце Беларускага Дзяржуніверсітэта і стала адной з першых яго выпускніц.

Пелагея Бадунова амаль да трыццаці год пражыла ў Гомелі. Статус хатняй настаўніцы даў магчымасць адарвацца ад бацькоўскай сям'і традыцыйнага ўкладу. З 1905 г. яна пачала выкладаць у навучальных установах Гомельскага павета, за 8 гадоў змяніла 5 месцаў працы, шукаючы больш высокі статус школы. Настаўніцкі дэбют адбыўся ў царкоўнай школе граматы, якая ўяўляла сабой самы нізкі, самы спрошчаны тып школьных устаноў. Праз год адбыўся пераход у царкоўна-прыходскую школу, тэрмін і ўзровень навучання ў якой быў крыху вышэйшым: за 2 поўныя гады вучні павінны былі засвоіць асновы Закону Божага, царкоўнаславянскай і рускай моваў, азы арыфметыкі, навучыцца царкоўным спевам.

Мусіць, атмасфера і ўзровень царкоўнага навучання не надта задавальнялі вольнадумную П. Бадунову. Таму з арганізацыяй на Беларусі цывільнай сістэмы земскага школьніцтва, яна пачынае працаваць у яе навучальных установах: спачатку ў школе вёскі




[1]Дзяржархіў Гомельскай вобласці (ДАГом). Ф. 62, воп. 2, спр. 102, л. 3.



ў планавым аддзеле завода Гомсельмаш. П. Бадунова пачынае наведвацца ў дом Асвяцімскіх. У размовах з ім і ягонай жонкай абмяркоўваецца сацыяльна-эканамічная сітуацыя, асуджаюцца чэргі за хлебам як вынік няправільнай палітыкі на вёсцы[1]. Асвяцімскім даводзілася часам аказваць П. Бадуновай і матэрыяльную падтрымку.

Тым часам, знішчыўшы «нацдэмаўшчыну», рэпрэсіўная хваля набірае новы ўздым і шырыню па ўсёй краіне. З лета 1937 г. НКУС БССР распачаў буйнамаштабную аперацыю па выкрыццю "польскай, нямецкай і латвійскай агентуры". Толькі па катэгорыі польскай, пад якую падпадалі тыя, хто быў неяк звязаны ці сутыкнуўся з польскімі ўрадава-палітычнымі структурамі, проста вернікі-каталікі, ўраджэнцы Заходняй Беларусі ці Польшчы – за чатыры месяцы (з 24.8.1937 па 1.1.1938) было арыштавана больш за 21 тыс. чалавек[2].

У біяграфіі П. Бадуновай пры жаданні можна было знайсці дастаткова падстаў для далучэння да катэгорыі польскай агентуры. 3 верасня 1937 г. ў доме брата па навабеліцкай вуліцы Карла Маркса, 115 яе арыштоўваюць па абвінавачаннях па артыкулах 72 і 76 крымінальнага кодэкса БССР. Пры абшуканні кватэры нкусаўцы сканфіскоўваюць савецкі і замежны пашпарты, шэсць агульных сшыткаў запісаў і 4 кнігі вершаў. Мерай папярэджання было абрана ўтрыманне пад вартай у Гомельскай турме[3].

Следчая справа Палуты Бадуновай – яскравае сведчанне трансфармацыі карнай практыкі ў СССР напрыканцы 30-х гг. На працягу двух з паловай месяцаў зняволеную трымалі ў поўным маўчанні. Першы і апошні допыт адбыўся 22 лістапада, а ягоны пратакол заняў 3 старонкі. Следчых цікавілі ў асноўным факты палітычнай дзейнасці Бадуновай перыяду 1919–1924 гг., удзел у антыпольскай барацьбе, абставіны неле-




[1]Архіў УКДБ РБ. Спр. 8482, л. 28.
[2]Платонаў Р., Сташкевіч М. Дзве аперацыі супраць «ворагаў народа» // Беларускі гістарычны часопіс. – 1993. № 1. – С. 78.
[3]Архіў УКДБ па Гомельскай вобл. Спр.130\74, л. 4.

ную" пасаду юрысконсульта на мясцовым тлушча-камбінаце. Ён так і не завёў уласнай сям'і і ўзяў на сябе клопат аб сястры. Родныя палічылі, што такі варыянт больш спакойны і прыдатны для Палуты. Тым больш, што новадалучаны да БССР Гомель не лічыўся асяродкам «нацдэмаўшчыны» і не прыцягваў да сябе настолькі пільнай увагі НКВД як Мінск.

Тут, у Гомелі, перажываючы падзеі, звязаныя з арыштамі па справе «Саюза Вызвалення Беларусі» і, прадчуваючы небяспеку, П. Бадунова наважылася на амаль адчайную спробу вырвацца з Беларусі. У 1932 г. яна звяртаецца ў Міжнародную арганізацыю дапамогі рэвалюцыянерам (МОПР) з просьбай аб садзейнічанні ў выездзе з СССР. Аднак гэта структура ўжо знаходзілася пад пільным кантролем сталінскага Камінтэрна і Палута атрымала адмову з тлумачэннем, арганізацыя дапамагае ахвярам пераследу капіталістаў, а Бадунова такой не з'яўляецца[1].

Па ўспамінах сваякоў і старажылаў Навабеліцы, у наступныя гады ў Гомелі П. Бадунова вяла даволі непрыкметнае жыццё прыватнай асобы. Хвароба не давала вострых праяў. Сродкаў для існавання яна па-ранейшаму не мела, жыла на ўтрыманні брата. Палута спрабавала зарабляць на жыццё прыватнымі ўрокамі, вярнуцца да літаратурнай дзейнасці, але мясцовыя выданні адмаўляліся друкаваць яе вершы і апавяданні, а спроба пазычыць друкарскую машынку выклікала жах у сям'і стрыечанага брата, якая ўяўвіла сабе, што былая апазіцыянерка адразу пачне выдаваць палітычныя памфлеты.

Аднак мінулае не пакідае П. Бадунову і ў Гомелі – раптам на вуліцы яна сустрэла былога члена ЦК БПСР, актывіста антыпольскага супраціву і ўдзельніка Слуцкага паўстання 1920 г. Марка Асвяцімскага. Менавіта ў яго доме П. Бадунова спынялася пад час прыезду ў Слуцк у 1921 г. М. Асвяцімскі перабраўся ў Гомель таксама з мэтай знікнуць з поля зроку сталічных партыйна-нкусаўскіх структур і працаваў



[1]Архіў УКДБ па Гомельскай вобл. Спр. 130/74.



Старая Гусявіца (сучасны Буда-Кашалёўскі раён), а затым – у двухкамплектнай земскай вучэльні ў вёсцы Уць (сёння – Добрушскі раён). Хаця земскія навучальныя ўстановы і адрозніваліся ад ЦПШ больш дэмакратычным і свецкім характарам, выхаванне ў іх было прасякнута тым жа праваслаўна-самаўладным духам. Заняткі, а таксама перапынкі на абед тут пачыналіся і заканчваліся абавязковай малітвай. Для выпрацоўкі патрыятычнай перакананасці вучняў развучвалі патрыятычныя вершы і гімны, вывешвалі ў класах ды ўручалі выпускнікам партрэты царскай сям'і. Але ў адрозненне ад царкоўнай сістэмы, тут рэкамендавалася дадаткова чытаць вучням артыкулы па гісторыі і геаграфіі, праводзіць экскурсіі, мець у бібліятэках кнігі «по родиноведению и отечествоведению», весці з навучэнцамі запісы мясцовых паданняў і легенд, згадак аб гістарычных асобах і знакамітых людзях[1].

Фарміраванне светапогляду Пелагеі, як і яе блізкага атачэння, адбывалася ва ўмовах дэмакратычнага асяродка местачковага жыхарства, пераважна службова-разначыннага і дробназемлеўладальніцкага, чуллівага да ідэй народнага дабрабыту і сацыяльнай справядлівасці.

Дадатковым чыннікам маглі стаць блізкія кантакты з суседам па Навабеліцы, вядомым народнікам, грамадскім дзеячом і публіцыстам, зацятым царскім дысідэнтам Мікалаем Кулябка-Карэцкім. За свае палітычныя погляды ён быў пазбаўлены адвакацкай дзейнасці і высланы ў Гомель, дзе на працягу 1912–1915 гг. выпускай і рэдагаваў выданне «Отклики: Политическая и общественная газета». Яно з'яўлялася пляцоўкай для выказвання апазіцыйна-свабодалюбівай думкі не толькі рэдактара, але і ўсёй ліберальна-дэмакратычнай гомельскай грамадскасці. Газета крытыкавала праявы самаўладнага бюракратызму, рэагавала на факты падаўлення свабоды слова, абмежавання грамадскай і палітычнай дзейнасці.



[1]*Журнал совещания инспекторов народных училищ Могилевской губернии по вопросам начального народного образования в этой губернии от 28 ноября – 3 декабря 1913 года. – Могилев, 1914. – С.12-13.*

І, нарэшце, найбольш важнае значэнне, на наш погляд, мела настаўніцкая чыннасць Палуты. Праца ў вясковых школах адкрыла ёй зусім іншы ад местачковага свет – космас беларускага сялянства, носьбіта нацыянальнай мовы, багатай і арыгінальнай традыцыйнай культуры, якія аднак, поўнасцю ігнараваліся афіцыйна. Прыніжаны сацыяльны і культурны статус беларусаў прымусілі П. Бадунову задумацца аб гістарычнай і нацыянальнай ідэнтыфікацыі роднага краю, аб уласнай прычыннасці да яго. Можам меркаваць, што па-за яе ўвагай настаўніцы не засталася самаахвярная дзейнасць земляка-белічаніна Еўдакіма Раманава, які, у тым ліку ў гэтых мясцінах, збіраў і якраз у гэтыя гады пачаў выданне тамоў свайго «Беларускага зборніка» – своеасаблівай энцыклапедыі матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа. Палута праходзіла шлях першага пакалення беларускай педагагічнай інтэлігенцыі, для якога пачуцце адказнасці школьнага настаўніка з часам перарастала ў пачуццё адказнасці за ўвесь прыгнечаны сялянскі народ.

Дакрананне да вясковай стыхіі не парывала сувязей з Гомелем і Навабеліцай, якія з'яўляліся значнымі асяродкамі эсэраўска-бундаўскай актыўнасці, мелі ўплывовыя сацыял-дэмакратычныя і анархісцкія арганізацыі. Магчыма, у гэты час вызначыліся эсэраўска-народніцкія ідэйныя арыентацыі П. Бадуновай. Але актыўнай рэвалюцыйна-палітычнай дзейнасці ў гомельскі перыяд, яна хутчэй за ўсе, пазбягала. Ускосна аб гэтым сведчыць паведамленне мясцовага жандармскака начальніка, што гарадское настаўніцтва і навучэнцы выказвалі "полную лояльность относительно отечества и престола"[1]. Акрамя таго, у "Асабістай справе настаўніцы Пелагеі Бадуновай" за 1913 г. адзначана, што нічым, акрамя добрасумленнасці да працы, яна не вызначаецца, не мае ні ўзнагарод, ні дысцыплінарных заўваг[2].

Амаль у трыццацігадовым узросце здзейснілася



[1]Дзяржархіў грамадскіх аб'яднанняў Гомельскай вобласці (ДАГАГом). Ф. 24, воп.1, спр. 81, л. 17.
[2]ДАГом. Ф. 60, воп. 2, спр. 102, л. 4.



прагла, быў перакрыты.

Становішча Палуты станавілася ўсё больш незайздросным. Крымскае лячэнне аказалася недастатковым, і у лютым 1927 г. яна падае ў Прэзідыум Інбелкульта ўласную заяву, дзе падрабязна распавядае аб сваёй дзейнасці, пералічвае заслугі перад Беларускай рэспублікай і просіць падтрымкі і дапамогі. Нагадаць аб сабе зноў вымагалі і здароўе і матэрыяльнае становішча: "Тут на Бацькаўшчыне ўвесь час хварэю і не магу ніяк ужо набыць сталага здароўя неабходнага для працы... Клімат Беларусі ўжо ня можа паставіць мяне на ногі, бо маю сур'ёзны рэўматызм, болі у вушах і носе, у лёгкіх... Лячыцца не маю ніякае магчымасці, бо нічога не атрымліваю як безпрацоўная і хворая, аб чым і прыкладаю пасведчанне, выд[адзенае] Саюзампрац. Асветы". Палута прасіла аб дапамозе, якая дала б магчымасць лячыцца на курортах Крыма ці Каўказа на працягу года, як прадпісвалі ёй дактары[1]. Просьба задаволена не была. Пераадольваць цяжкасці давялося сваімі сіламі і клопатамі сястры Марыі. Аднак наперадзе чакалі яшчэ больш сур'ёзныя выпрабаванні.

У 1930 г. быў дадзены першы залп рэпрэсій па беларускай інтэлігенцыі, звязанай з нацыянальным рухам і БНР – прайшлі арышты 90 чалавек па справе "Саюза вызвалення Беларусі". Сярод арыштаваных значную частку складалі паплечнікі П. Бадуновай па кіраўніцтве БНР, па партыі і эміграцыі. У іх лік папалі і блізкія людзі – Вацлаў Ластоўскі, Язэп Трафімаў, Мікола і Іван Пашковічы, Чаржынскі, інш. Саму Палуту гэта хваля абмінула. Можна меркаваць, што прычынай сталі стан яе здароўя і амаль поўная адхіленасць ад грамадскай і працоўнай дзейнасці.

Тым не менш, сёстры з перасцярогі пакідаюць Мінск. Марыя накіроўваецца ў Маскву да старэйшай сястры Анатоліі. Тут яна ўладкоўваецца на працу ў школу і застаецца на сталае жыхарства.

Палуту перавозяць у родны Гомель да брата Аляксандра. Былы грамадскі дзеяч зараз займаў "апалітыч-



[1]ЦНА НАНБ. Ф. 67, воп.1, спр.24, л. 41–адв

адметнай падзеяй як для П. Бадуновай асабіста, так і для ўсёй Беларусі: у 1926 г. горад, у якім нарадзілася Палута – Гомель быў вернуты БССР. Улетку 1927 г., якраз праз дзесяць год пасля таго, як яна прапагандавала тут беларускую справу, Бадунова наведала родныя мясціны. Яе цікавіла разгортванне беларускага школьніцтва, пасля многіх гадоў яна зноў аглядзела палац Паскевіча і знакаміты парк.

Свае думкі аб магчымасцях выкарыстання патэнцыялу Гомеля ў агульнабеларускіх інтэрэсах П. Бадунова выклала ў звароце ў Інбелкульт. Яе ўвага была звернута на музейнае значэнне палаца Паскевіча і на ягоную бібліятэку – найбагацейшы на Беларусі збор замежнай літаратуры. Запіска прапаноўвала скарыстаць гэты кнігазбор для вырашэння актуальнай, на погляд аўтаркі, праблемы падрыхтоўкі спецыялістаў па замежных мовах. Абгрунтоўваючы такую неабходнасць, П. Бадунова, з улікам ўласнага знаёмства з еўрапейскім жыццём, выказала некалькі цікавых і прадбачлівых для ўмоў НЭПу, меркаванняў аб перспектывах сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі. Яна пісала: “Беларусь мае магчымасць лягчэй скарыстаць сваю блізкасць да Заходняй Эўропы... трэба пасылаць за кардон спецыяльныя экскурсійныя групы дзеля вывучэння кааперацыі, сельскай-гаспадаркі, фабрычна-заводскай прамысловасці, патрэб рынку, школьнае справы, медыцыны і інш. галін жыцця... мы маем неабходнасць пасылаць у Эўропу людзей... каб не адстаць, а наадварот, ураўняцца ў тэхніцы. Апроч таго, гандль з’явіцца першым у хуткі час пытаннем паміж намі і Эўропай, а мы не маем гандлёва-падрыхтаваных людзей. Гомель павінен даць нам іх”[1].

Але на той момант прапановы П. Бадуновай прыняты да ўвагі не былі. Відавочна, што рэпутацыя хворага і непрыдатнага для сур’ёзнай работы чалавека цвёрда ўсталявалася за ёй ў Мінску, у тым ліку і сярод былых сяброў і паплечнікаў. Шлях да рэальнага ўдзелу ў грамадскіх ці культурных справах, якога яна так

[1] ЦНА НАНБ. Ф. 67. воп. 1, спр. 24, л. 12-адв., 13.




мара Пелагеі аб вышэйшай адукацыі – у 1914 г. яна паступае на Вышэйшыя гісторыка-літаратурныя курсы ў Петраград, абраўшы сваёй спецыяльнасцю літаратуру, гісторыю і геаграфію. Тут, да наступлення рэвалюцыйнай віхуры яна паспела скончыць тры курсы, тут пачаўся яе шлях у палітыку: з разгортваннем лютаўскай рэвалюцыі слухачы курсаў накіроўваюць П. Бадунову сваім дэлегатам у новы дэмакратычна-рэвалюцыйны ўладны орган – Петраградскі Савет Рабочых і Салдацкіх дэпутатаў.

Дачыненне да справы пераўтварэння вялікай імперыі неўзабаве прынесла ўсвядамленне, што часткай неабходных перамен з’яўляецца самавызначэнне народаў, у тым ліку яе роднага – беларускага.

Тым больш, перадрэвалюцыйная расійская сталіца паспела не толькі пазнаёміць, але і блізка звесці П. Бадунову з асяродкам маладой беларускай інтэлігенцыі, якую закінулі сюды вучоба і вайна. Беларускія актывісты згуртаваліся вакол земляка, вядомага філолага, прафесара Пецярбургскага ўніверсітэта Браніслава Эпімах-Шыпілы. У 1916 г. яны заклалі “Беларускае таварыства па аказаньні дапамогі пацярпелым ад вайны”, абмяркоўвалі пытанні адраджэння роднай культуры і мовы, задумваліся аб будучыні Беларускага краю. Ім было зразумела, што лёс радзімы трэба браць ва ўласныя рукі.

Канкрэтныя крокі П. Бадуновай да беларускай справы не вядомыя. Але яе з’яўленне ў эпіцэнтры нацыянальнага руху выглядае як выбух. Энэргія, перакананасць у поглядах, красамоўства хутка здабываюць маладой жанчыне аўтарытэт сярод сяброў і аднадумцаў. Бадунова становіцца адным з лідэраў леванародніцкага крыла Беларускай Сацыялістычнай Грамады, якая якраз у гэты час аднаўляла сваю палітычную дзейнасць. Аб некаторых падзеях гэтай справы яна сама прыгадвала ў 1922 г.: Грамада была адноўлена маладзейшым пакаленнем беларускіх дзеячоў, якія вясной 1917 г. правялі ў Пецярбургу з’езд і абралі новы ЦК і Прэзідыум. Разам са Зміцерам Жылуновічам, Язэпам Варонкам, Клаўдзіюшам Дуж-





Душэўскім, Эдвардам Будзькам у гэтыя структуры была абрана і П. Бадунова.

Для паразумення з ветэранамі Грамады Алесем Бурбісам і Язэпам Дылам, якія заставаліся ў Маскве і ў з'ездзе не ўдзельнічалі, была накіравана дэлегацыя ў складзе П. Бадуновай і Зм. Жылуновіча з Пецярбурга, Алеся Прушынскага (Гаруна) і Аркадзя Смоліча з Мінска. Сустрэча ў Маскве ўразіла Палуту. На ўсё жыццё яна запомніла наказ старэйшага аўтарытэта нацыянальнага руху нашаніўца Алеся Бурбіса: «Мы аслабелі… голад і турмы змучылі нас, высушылі нашы грудзі. Некаторыя мае сябры ўжо пакінулі гэты свет. Але ж мы стварылі вас, новых маладых працаўнікоў… Памятайце ж, не кідайце і вы рэвалюцыйнага сцягу, пакуль не скажа наш народ і другія прыгнечаныя народы: Мы вольныя і роўныя»[1].

Гэты заклік стаў востраактуальным, бо рэвалюцыйныя падзеі імкліва абуджалі рух за самавызначэнне Беларусі. У Мінску ў сакавіку 1917 г. сабраўся з'езд беларускіх арганізацый і стварыўся Беларускі Нацыянальны камітэт, які ўзначалілі дзеячы ліберальнага кірунку на чале з вядомым абшарнікам і дэпутатам царскай Дзяржаўнай думы Раманам Скірмунтам. Справы вымагалі кансалідацыі нацыянальных сіл. Улетку 1917 г. разам з іншымі актывістамі БСГ Бадунова прыязджае на Гомельшчыну, вядзе прапаганду ідэй беларускага адраджэння сярод сялян, салдат і настаўнікаў у Навабеліцы, Гомелі, Буда-Кашалёве, збірае дапамогу пацярпелым ад вайны.

Надалей яна становіцца актыўным арганізатарам і ўдзельнікам кожнай акцыі беларускага руху: прымае ўдзел у з'ездзе дэлегатаў партыйных і грамадскіх арганізацый, што сабраўся ў Мінску ў ліпені 1917 г., вітае ад імя ЦК БСГ з'езд беларусаў-вайскоўцаў Заходняга фронту. Разам з Язэпам Лёсікам, Вандай Лявіцкай, Мікалаем Марозам аднаўляе створаны яшчэ ў 1906 г. "Беларускі вучыцельскі хаўрус", каб разгортваць беларускае школьніцтва.




[1]Адраджэнне. Мінск : Інбелкульт, 1922. – Сш. 1. – С. 273.



правядзенні антысялянскай аграрнай палітыкі: субяседнікі расказвалі, што сялян прымусам цягнуць у калгасы, а незадаволеных высылаюць[1].

Але, па меры аднаўлення здароўя, П.Бадунова імкнецца рабіць тое, чым займаліся большасць яе сяброў і паплечнікаў па беларускім руху – скарыстаць свае сілы ў культурніцкай працы. Яе не пакідалі спадзяванні на магчымасць плённага ўдзелу ў "адбудове беларускага дому", натхнялі прыклады былых дзеячоў нацыянальнага руху, якія таксама вярнуліся ў БССР з эміграцыі і не толькі прымалі чынны ўдзел, але і вызначалі на адказных пасадах культурніцка-навуковае развіццё Беларуі – А. Смоліча, В. Ластоўскага, С. Некрашэвіча ды шмат каго іншых.

П. Бадунова наважваецца наладзіць супрацоўніцтва з Інстытутам беларускай культуры. У лістападзе 1927 г. па ўласнай ініцыятыве яна рыхтуе для гэтай установы некалькі запісак-прапаноў.

Першая з іх датычыла развіцця музейнай справы ў БССР. Прапаноўвалася стварэнне "музея працоўных" – своеасаблівага комплексу экспазіцый аб этнаграфіі, гісторыі, эканоміцы Беларусі. На думку аўтаркі, галоўнае месца ў ім павінен быў заняць музей рэвалюцыі, для стварэння якога неабходна прыцягнуць «кожнага сведку рэвалюцыйных падзей», сабраць іх успаміны і магчымыя экспанаты. Выказвалася слушная думка аб тым, што кожны музей павінен стаць «лабараторыяй для вывучэння краю». Задача музеяў – адыгрываць ролю асяродка сацыялістычнага выхавання працоўных і ўвасабляць класавы падыход. З гэтай мэтай прапаноўвалася разгарнуць экспазіцыі аб дзеячах, паэтах і пісьменніках новай, савецкай, Беларусі і прыбраць з музеяў тое, што «брыдка», незразумела і абражае класавае пачуццё працоўнага народу, напрыклад, старасвецкія партрэты – «твары польскай шляхты, якая коса пазірае з сваіх цёмных дошак»[2].

З'яўленне другой запіскі было звязана з важнай і




[1]Архіў УКДБ па Гомельскай вобл. Спр. 8482, л. 23.
[2]ЦНА НАНБ. Ф. 67, воп. 1, спр. 24, л. 11, 11-адв., 12 і 12-адв.

У Мінску П. Бадунова вымушана была жыць на ўтрыманні сястры Марыі, якая працавала настаўніцай у адной з мінскіх школ. Здароўе аднаўлялася цяжка, працаваць не дазваляла. Амаль усю восень 1926 г. Палута правяла ў лячэбніцах Севастопаля.

Вяртанне вядомай эсэраўскай дзяячкі ў Мінск не засталося незаўважаным, ды і сама яна імкнулася падтрымліваць адносіны са старымі сябрамі і паплечнікамі. Аднак былыя эсэры былі пастаўлены пад пільны чэкісцкі кантроль. Таму кватэру па вул. Чырвонаармейскай – 25, дзе жылі сёстры Бадуновы наведваюць у асноўным прадстаўнікі той часткі партыі, што засталася ў БССР і дэкларавала самароспуск БПСР – Мікалай Карач, Яўхім Бялькевіч, Мікола Пашковіч. Не наважваліся на гэта лідэры, як, напрыклад, былы член ЦК і саўдзельнік смаленскіх перамоў 1919 г. Яўсей Трафімаў. Тым больш цяжкім быў бы такі крок для рээмігрантаў, ад якіх патрабавалася дэманстрацыя абсалютнай лаяльнасці бальшавіцкай уладзе і поўнага разрыву з мінулым. Ці не гэтым тлумачыцца адсутнасць звестак аб кантактах П. Бадуновай з Я. Мамонькам, які з'явіўся ў Мінску пасля берлінскай канферэнцыі 1925 г., ці В. Ластоўскім, які вярнуўся з Коўна ў Мінск у адзін год з ёю – 1926? Можна толькі ўявіць, наколькі цяжка перажывалася Палутай ігнараванне яе людзьмі, якіх яна лічыла найбольш блізкімі паплечнікамі і для якіх зрабіла так многа, нават калі яна разумела прычыны іх стаўлення да сябе.

Улічваючы стан Палуты, яе былыя паплечнікі стараліся не кранаць вострых палітычных тэм, але воляй-няволяй гутарка пераходзіла на становішча эсэраў у савецкай сістэме. П. Бадунова даведваецца аб падрабязнасцях ліквідацыйнага з'езда, аб тым, што цяпер былыя члены БПСР выціскаюцца з гаспадарчых і культурна-асветных структур. Было зразумела, што ліквідацыя партыі развязала рукі бальшавікам у






Гучны рэзананс набывае выступленне П. Бадуновай на Усебеларускім з'ездзе бежанцаў у Маскве. Непадрыхтаваная частка аўдыторыі яе даклад аб нацыянальным самавызначэнні Беларусі успрыняла як правакацыю: "Пасля маіх прамоў на з'ездзе некаторыя маскоўскія беларусы пыталіся ў мяне пашпарту, каб пераканацца, ці я сапраўды праваслаўная, а не каталічка, падасланая езуітамі, як яны казалі. Для іх вуха здавалася дзікім, што Беларусь – гэта не Расія, што беларусы, як нацыя, маюць права на вольнае незалежнае існаванне"[1].

У жніўні 1917 г. ствараецца Цэнтральная рада беларускіх арганізацый – орган, які ўзяў на сябе каардынацыю нацыянальнага руху, аб'яднаўшы 23 арганізацыі на тэрыторыі Беларусі і па-за яе межамі. Выканкам Рады быў абраны з 9 чалавек. Разам з такімі аўтарытэтнымі дзеячамі як А. Смоліч, Я. Дыла, Зм. Жылуновіч, Фабіян Шантыр у яго абіраюць і П. Бадунову.

Дыскусія на першым пасяджэнні Рады засведчыла, што, на той час у палітычным светапоглядзе П. Бадуновай сацыялістычныя ідэалы ўсё ж пераважалі над нацыянальнымі: на прапанову В. Лявіцкай акцэнтаваць у дзейнасці ЦБР нацыянальнае пытанне, П. Бадунова запярэчыла: «упярод сацыялізм, а пасьля нацыя»[2].

Падзеі пасля кастрычніцкага бальшавіцкага перавароту прыспешвалі справу нацыянальнага вызначэння: утвораны ў Мінску Абласны выканаўчы камітэт Заходняй вобласці і фронту (Аблвыканкамзах) не хацеў чуць ні пра Беларусь, ні пра беларусаў, лічачы іх тэрыторыю – "ісконнай" часткай Расіі. Блізкія Палуце дзеячы пашыраюць свае шэрагі, неадкладна рэарганізуюць Цэнтральную раду ў Вялікую Беларускую (ВБР) з мэтай барацьбы за практычнае дасягненне аўтаноміі Беларусі ў межах Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі. Сябе ВБР разглядала як орган дзяржаўнай улады будучай беларускай аўтаноміі.




[1] *Адраджэнне. – Сш. 1. – С. 274.*
[2] *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі (Архівы БНР). – Вільня-Нью-Ёрк-Менск-Прага,1998. – Т. 1. – Кн. І. – С. 9.*

П. Бадунова ўвайшла ў склад Выканаўчага камітэта ВРБ як яе рабочага органа.

Для вырашэння пытанняў будучыні Беларусі на самай шырокай дэмакратычнай аснове ВБР ініцыявала скліканне ў снежні 1917 г. Усебеларускага з'езда. Ён сабраў у Мінску 1862 дэлегата ад усіх мясцін і грамадска-палітычных арганізацый краю. Разам яны дэкларавалі прынцыпы дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі: саюз з РСФСР, сапраўднае нацыянальна-рэвалюцыйнае народаўладдзе, а таксама непадзельнасць этнічнай тэрыторыі Беларусі (заходняя яе частка знаходзілася ў гэты час пад нямецкай акупацыяй). За гэтыя рашэнні галасавалі і землякі Палуты – адзін з галоўных арганізатараў з'езда лоевец Язэп Канчар і яго паплечнік Васіль Селіванаў, рэчычанін Васіль Муха, дэлегаты ад Гомеля: тагачасны гарадскі галава Іосіф Бабарыкін, старшыня мясцовай арганізацыі БСГ Язэп Няцецкі, эсэр Даніла Гуло і інш.

У падрыхтоўцы і правядзенні з'езда П. Бадунова прымала самы чынны ўдзел: ёй даручаецца вырашэнне адной з найбольш складаных і балючых для Беларусі праблем – дапамогі бежанцам і інвалідам вайны. Справа гэта мела не столькі гуманітарны, колькі палітычны сэнс, бо сярод беларусаў-уцекачоў і на тэрыторыі Беларусі і па-за яе межамі актыўна працавалі польскія і літоўскія камісіі, якія рэгістравалі бежанцаў як грамадзян сваіх дзяржаў. Узначаліўшы бежанскую камісію з'езда, Палута ўсебакова вывучае пытанне, рыхтуе даклад на плянарнае пасяджэнне.

Выступіць з дакладам ёй не давялося. Але аб падыходах да праблемы, аб усведамленні яе дзяржаўнага значэння сведчыць падрыхтаваны ёю праект рэзалюцыі, які прапаноўваў разгорнутую і дакладную праграму забеспячэння патрэб і правоў бежанцаў і ахвяр вайны – ад арганізацыі цэнтралізаваных кіруючых структур да канкрэтнай фінансава-матэрыяльнай і культурна-адукацыйнай дапамогі кожнай сям'і. Рэзалюцыя грунтавалася на тым, што праблема можа быць паспяхова вырашана толькі пры ўмове пераўтварэння беларускай дзяржавы ў суб'ект міжнародных адносін,






мант, калі распачала клопаты Марыя, намеснік паўнамоцнага прадстаўніка ОГПУ па Беларусі І. Апанскі паслаў у Маскву данясенне "О белорусском шовинистическом подполье в Б.С.С.Р.". Яно сцвярджала: "Направления и методы антисоветской работы, проводимой белорусскими шовинистами в пределах Б.С.С.Р., не в малой степени преподаются из-за границы. Руководящим центром является ПРАГА, приютившая у себя столпов эсеровского белорусского движения, как-то МАМОНЬКО, ГРИБА, БОДУНОВУ Паулину и др. Оттуда-то исходят руководящие указания, которые так добросовестно проводятся в жизнь местными белорусскими деятелями определенной окраски"[1].

З дакумента вынікае, што прыезд П.Бадуновай суадносіўся таксама з падрыхтоўкай вядомай акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу, якая планавалася на 1926 г. На думку І. Апанскага, пад шыльдай "сусветнага кангрэса беларускіх вучоных" рыхтаваўся з'езд нацыяналістычных сіл, у тым ліку і эміграцыйных. У выпадку, калі на канферэнцыю раптам прыедзе афіцыйна запрошаны Т. Грыб, а таксама з'явіцца Я. Мамонька, які "па заслугоўваючым даверу крыніцах", меў намер нелегальна трапіць ў БССР, вяртанне "будто бы душевно-больной Бодуновой" будзе азначаць, што "вся руководящая Прага окажется в Минске"[2].

Толькі 12 лістапада 1925 г. Наркамат замежных спраў СССР візіруе П. Бадуновай уезд у СССР, але не на пастаяннае жыхарства, а на тэрмін у 30 дзён. У студзені 1926 г. НКУСам БССР быў нарэшце дазволены Марыі Бадуновай праезд у памежную зону, на чыгуначную станцыю Негарэлае «для сустрэчы сястры, якая едзе з Чэхаславакіі»[3].

---

[1] *НАРБ. Ф. 60, воп. 3, спр.798, л. 78.*
[2] *Там сама.*
[3] *Архіў УКДБ РБ. Спр. 8482, л. 103.*



цавання новага эміграцыйнага палітычнага цэнтра, які мог бы “затармазіць развіццё беларускага руху прасавецкай арыентацыі”, было вырашана разваліць частку звязанай з мандатам БНР эміграцыі і дабіцца вяртання яе прадстаўнікоў у БССР, што стала б прыкладам для астатніх.

У кастрычніку 1925 г. у Прагу прыехала дэлегацыя БССР у складзе Зміцера Жылуновіча, Міхася Чарота і Янкі Купалы, якая ў выступленнях перад беларускімі эмігрантамі распавядала аб поспехах будаўніцтва савецкага «беларускага дома». Непасрэдна з Прагі З. Жылуновіч і А. Цвікевіч накіраваліся ў Берлін, дзе 12 кастрычніка адбылася нацыянальна-палітычная канферэнцыя, удзельнікі якой адмовіліся ад мандатаў БНР і пастанавілі: «спыніць дзейнасць урада БНР і прызнаць Мінск адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі». Акрамя арганізатара нарады А. Цвікевіча і яго прыхільнікаў, падтрымалі гэту рэзалюцыю прысутныя на канферэнцыі былыя блізкія паплечнікі Т. Грыба і П. Бадуновай па партыі, колішнія стваральнікі БНР – Леанард Заяц, Алесь Галавінскі, Уладзімір Пракулевіч, Язэп Мамонька, Павал Вяршынін.

Сама падзея і яе значэнне, хутчэй за ўсё, засталіся па-за свядомасцю П. Бадуновай. Хвароба поўнасцю перакрэсліла былы лад яе жыцця. Заставацца ў Празе магчымасцей не было, бо патрабаваўся пастаянны дагляд. Па сведчанню Марыі Бадуновай, нейкая жанчына яшчэ ў 1924 г. напісала ёй з Прагі ў Мінск аб цяжкім стане сястры. Следам і Тамаш Грыб падцвердзіў гэтыя звесткі і паведаміў, што не мае магчымасці аказваць Палуце дапамогу.

З лета 1925 г. Марыя Бадунова стала дамагацца вяртання сястры на радзіму. Звароты ў Народны камісарыят унутраных спраў БССР, а затым у Наркамат замежных спраў СССР не адразу далі вынік.



Нават і пасля ліквідацыі эсэраўскіх структур партыйна-чэкісцкае кіраўніцтва БССР па-ранейшаму лічыла эсэраў небяспечнай сілай, эпіцэнтр якой знаходзіўся менавіта ў Празе. У верасні 1925 г. якраз у мо-



бо толькі так будзе магчымым дасягнуць спагнання з краін-ініцыятараў развязвання вайны кампенсацыі за эканамічныя страты, нанесеныя Беларусі. Збор сродкаў павінен забяспечыць спецыяльны міжнародны фонд.

Рашэнні Усебеларускага з’езда аб стварэнні Беларускай рэспублікі, аб непадзельнасці яе тэрыторыі і перадачы ўлады Усебеларускаму з’езду саветаў выклікалі непакой бальшавіцкай ўлады на Беларусі, якая не магла пагадзіцца з стратай ініцыятывы ў палітычных пытаннях. Савет Народных Камісараў Заходняй вобласці і фронту – выканаўчы орган Аблвыканкамзаха – гвалтоўна спыніў работу з’езда, арыштаваўшы 18 членаў абранай ім Рады і ўвесь прэзідыум. Разгон форума і арышт яго ўдзельнікаў выклікаў вялікае абурэнне ў грамадскасці. Фальсіфікаваныя звесткі аб з’ездзе былі пасланы ў Маскву. Такім чынам, з магчымых саюзнікаў беларускі рух і бальшавіцкае кіраўніцтва, якое першапачаткова падтрымала правядзенне з’езду, пераўтварыліся ў адкрытых праціўнікаў.

Пасля вызвалення арыштаваных дэлегатаў Рада з’езда аднавіла нелегальныя пасяджэнні, на адным з якіх было прынята рашэнне перадаць паўнамоцтвы Выканаўчаму камітэту з’езда, “размеркаванаму па ліку сваіх сяброў так, каб у патрэбны час ён мог стаць урадам, абняўшы ўсе галіны дзяржаўнага кіравання”[1]. У склад Выканкама ўвайшлі 17 чалавек, сярод якіх адказныя пасады размеркаваліся наступным чынам: Язэп Варонка – замежныя справы, Сымон Рак-Міхайлоўскі – унутраныя, Макар Касцевіч (Краўцоў) – прасвета, Алесь Прушынскі – праца, Тамаш Грыб – земляробства, Леанард Заяц – загадчык справамі. Палуце Бадуновай былі даручаны справы апекі.

Палітычная сітуацыя на Беларусі развівалася вельмі імкліва. У сярэдзіне лютага 1918 г. былі сарваны мірныя савецка-германскія перамовы ў Брэсце і нямецкія войскі занялі ўсю тэрыторыю Беларусі. Выканаўчы камітэт Усебеларускага з’езду аднавіў сваю дзейнасць



[1] *Спадчына. – 1998. – № 1. – С. 77– 78.*

і ў найскладанейшых умовах акупацыі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, распачата пакутлівая спроба нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва.

П. Бадунова знаходзілася ў самым цэнтры гэтых паддзей. Яе подпіс стаіць пад гістарычнымі Устаўнымі Граматамі аб утварэнні БНР і абвяшчэнні яе незалежнасці. Яна ўвайшла ў склад Рады БНР і Народнага Сакратарыята, дзе таксама ўзначаліла справу апекі.

На сваіх пасадах яна працягвала займацца праблемай дапамогі бежанцам і пацярпелым ад вайны – акрамя распрацоўкі дакументаў, інспекцый, пасяджэнняў, кожны дзень вяла прыём наведвальнікаў[1]. Як педагог, яна не магла абыйсці і справу наладжвання беларускага школьніцтва. Аб тым, якой напружанай і натхнёнай была праца тых часоў, Палута прыгадвала ў 1927 г. Праўда, акцэнт яна рабіла, як ужо патрабавалася ў той час, не на нацыянальным, а на рэвалюцыйным сэнсе зробленага: "...я з'яўляюся першай настаўніцай м. Менску па арганізацыі і актыўнай працы ў першых беларускіх школах у Менску... На школах заўсёды ляжала вялікая задача – абарона наогул беларускіх дзяцей і падтрыманне іх у часы галодных акупацый. Дзеля гэтай мэты арганізавана было мной з дапамогай Т. Грыба, грамада "Цётка", якая рабіла зборы і інш. дзеля ўтрымання першага сталага Беларускага дзіцячага дому… Мной былі арганізаваны дзіцячыя ясьлі для беларускіх работніц... першая летняя калёнія для прыюта, пакінутая ў час Кастрычніцкай Рэвалюцыі Земствам… Я была выбрана рэвалюцыйным з'ездам настаўнікаў бежанскіх школ прыфрантавое паласы на пасаду загадчыцы усіх школ-сталовых... На свае ўласныя заробкі вяла я рэвалюцыйна-агітацыйную прапаганду, падтрымліваючы ідэі рэвалюцыі ўва ўсіх галінах тагачаснага... жыцця. Я працавала на двухтрох, а іншы раз і пяці пасадах бязплатна, атрымліваючы пенсію толькі за сталую школьную працу..."[2].

Вакол П. Бадуновай і яе паплечнікаў па школьні-



[1]*Архівы БНР. – Т. 1. – Ч. I. – С. 116.*
[2]*Цэнтральны навуковы архіў НАН Беларусі (ЦНА НАНБ). Ф.67, воп.1, спр.24, л. 40–40 адв.*



яе магчымасцей і ўмоўнасці мэтаў. Навеяныя хваробай Палуты разважанні, перакідваюцца на ўласную палітычную справу: «Пачынаю ўважаць аб нашай Бацькаўшчыне. Яна таксама хворая. З'яўляюцца розныя дахтары. Даюць розныя рады. Якая з іх лепшая? Ці ўсё тоя, што я дагэтуль рабіў, было добрае? Я працаваў, шчыра хацеў дабра свайму народу, змагаўся і заклікаў іншых на змаганне. Ці ўсё гэта я мусіў рабіць? – Іншыя таксама рабілі… мо і яны памыляліся»[1].

Падставы для цяжкіх разважанняў над уласным шляхам жыцця і дзейнасці давалі таксама падзеі, якія станавіліся рубяжом у барацьбе за беларускую ідэю і дзяржаўнасць. Палітычныя рэаліі БССР: пераход да НЭПу, умацаванне і вынікі да сярэдзіны 20-х гадоў беларусізацыі і каранізацыі, а таксама ўзбуйненне тэрыторыі Беларусі 1924 г., якое вярнула значную частку страчанай у 1919 г. тэрыто5рыі Віцебскай і Магілёўскай губерняў, – усё больш уплывалі на настроі беларускай палітычнай эміграцыі, падавалі надзею на блізкую дэмакратызацыю рэжыму ў БССР. Тым больш, што яшчэ ў 1923 г. урад БССР абвясціў амністыю дзеячам беларускага руху, якія не змагаліся супраць савецкай улады са зброяй у руках. З гэтай амністыі адразу скарысталі віленскія эмігранты Максім Гарэцкі і Аркадзь Смоліч – намеснік старшыні Найвышэйшай Рады. У ліпені 1925 г. з Прагі ў Мінск ад'яджае Іван Краскоўскі. Гэта было пачаткам цэлага працэса вяртання эмігрантаў.

Але тыя, хто шчыра сабраўся на «адбудову беларускага дому», не ведалі, што арганізацыя вяртання на Беларусь была этапам чэкісцка-бальшавіцкай аперацыі па знішчэнню палітычных апанентаў, у тым ліку і шляхам «драблення» беларускай эміграцыі. Савецкі Мінск пастаянна сачыў за крокамі двох канкурыруючых рад і урадаў БНР, а таксама груповак А. Цвікевіча і В. Ластоўскага. Намер эсэраў заснаваць у Коўне Нацыянальны беларускі Камітэт занепакоіў кіраўніцтва БССР. Каб не дапусціць узнікнення і ўма-



[1]*Архівы БНР. – Т. 1. – Кн. II. – С. 1603.*

На стане Палуты адбіваліся не толькі ўласна хвароба, але і назапашанае гадамі адчуванне адзіноты, адсутнасць блізкіх і родных, сямейнага клопату. Жаночая незапатрабаванасць змешвалася з нерэалізаванымі амбіцыямі, адчуваннем непрызнанасці заслуг і несправядлівасці паплечнікаў. Гэта здолела зразумець і апісаць ў лісце да В. Ластоўскага сведка сітуацыі Марыя Галубянка: "Весткі аб П. Бадуновай сумныя. Яна праз 0,5–1,5 месяцы была хворая: гэта манія вялічыя, пераследвання... Бачыла я яе пасля хваробы і па выхадзе са шпіталя. Выглядаець дужа дрэнна, гэта няшчасны, бедны, я б сказала зламаны, разбіты чалавек, якога трэба прыгалубіць, прыласкаць, папесціць, трэба бы прыгалубіць, убаюкаць яе, як калісьці баюкала нас маці родная ў дзяцінстве. Але гэтага яна не маець. І сумна і цяжка ёй. Адным словам не хапаець ёй галоўнага імпульсу ў жыцці – кахання, бо ці ж можа чалавек жыці без кахання, не сустрэтага да гэтага ніводнага. Мусіць штокольвек кахаць: ідэю, рэч, чалавека, чым маладзейшы чалавек, мне здаецца, тым больш абстракцыйнае, тэарэтычнае яго каханне, чым старэйшы, тым больш рэальна-акрэсленае. І ось мне здаецца, што і П. Бадунова ў гэтакім стадыйным свайго развіцця, калі мала таеі абстракцыі, а хочыцца больш рэальнага, акрэсленага"[1].

Цяжкую драму ў сувязі з хваробай П. Бадуновай пераўжыў Тамаш Грыб. Нягледзячы на абмежаваныя фінансавыя сродкі, ён імкнуўся зрабіць усё магчымае, прыцягнуць лепшыя медыцынскія сілы: «Падымаю на ногі найбольш выдатных прафесароў-псіхіятраў, дахтароў-практыкаў – усё марна. Аднагалосна ставяць прысуд: не злячыма». Раптоўнае пераўтварэнне блізкага чалавека, сяброўкі і паплечніцы – моцнай пасіянарнай асобы, ўсё жыццё і істота якой былі да краёў запоўнены адзіным валявым памкненнем і, здавалася, не маглі дапусціць нечага непадкантрольнага сабе – перавярнулі свядомасць Т. Грыба, прымусілі задумацца аб сэнсе чалавечай дзейнасці, аб абмежаванасці

[1] БДАМЛіМ. Ф.3, воп.1, спр.256, л. 61,61–адв., 62.






цтву гуртавалася маладая настаўніцкая грамадскасць: Софья Шышова, Кастусь Пуроўскі, Кацярына Яноўская, Міхась Кудзелька (Чарот), Навум Козіч, Бандарчык, браты Мікола і Янка Пашковічы. Да арганізацыі школ яна прыцягнула таксама сваю малодшую сястру Марыю, якая пераязджае з Гомеля ў Мінск і становіцца з гэтага часу бліжэйшым паплечнікам і памочніцай – "анёлам-ахоўнікам", па вызначэнні самой Палуты. Наогул, пасіянарнасць Бадуновай адчувалася, уражвала і прываблівала: на здымку Палуты адна з яе маладых паплечніц, Вера Маслоўская, напісала: "Беларускія кабеты – ізгляньце вобраз гэты мілы! Колькі міласці духоўнай, і энэргіі і сілы! Так і кліча вас, кабеты: «Упярод! Да адной мэты!"[1].

Напружана працаваць даводзілася таксама над сабой – удасканальваць палітычныя і прававыя веды, а таксама... засвойваць беларускую мову. Зразумела, што яе ведання не маглі даць ні царская настаўніцкая вучэльня, ні гомельскі гарадскі асяродак, хаця праца ў вясковых школах і сутыкнула Палуту з моўнай народнай стыхіяй. Але, як і некаторыя іншыя дзеячы нацыянальнага руху гэтага часу, Бадунова не валодала беларускай мовай свабодна, а магчыма і адмаўляла яе літаратурныя вартасці і значэнне для справы нацыянальнага выхавання. Пра гэта можа сведчыць адзіны яе вядомы верш – "Белоруссия", пэўна 1917 ці 1918 г., прасякнуты патрыятычным пафасам, але напісаны па-руску:

*Край мой страждущий родимый,*
*Белорусский край любимый!*
*Весь ты – слезы, весь – терпенье,*
*Весь – великое смиренье.*
*Бури вечно тебя гнали:*
*То литовцы унижали,*
*То поляки презирали,*
*Польским русские считали.*
*Край наш – им пренебрегали.*
*Угнетенный и несмелый,*

[1] *Настаўніцкая газета. – 1994. – 23 сакавіка.*



*Ты заснул, народ наш белый.*
*Долго спал ты непробудно,*
*Жил печально, тяжко, нудно…*
*Грянул гром. Сыны печали*
*Беды новые узнали, –*
*Бегство, смерть, война и стоны*
*Все кресты, все похороны.*
*Весь окопами изрытый,*
*Кровью братскою залитый,*
*Ты разорван на две части*
*… и молчишь в своем несчастьи.*
*Что ж молчишь ты, оскорбленный,*
*Всеми тяжко обойденный?*
*Где твой гнев? И где твой голос?*
*Что стоишь, как в поле колос,*
*Одинокий и забытый*
*Бурей грозною прибитый?*
*Встань, народ наш белорусский!*
*Брось тернистый путь и узкий?*
*И на светлую дорогу*
*Выбирайся нога в ногу.*
*Кликни клич, забей в набаты*
*Смело – духом ты богатый.*
*К свету, к миру всех зови.*
*Белый Росс! Пора, не жди!* [1]

Я. Лёсік прыгадваў, што яшчэ ўлетку 1917 г. Бадунова досыць скептычна выказвалася наконт перспектываў афіцыйнага выкарыстання беларускай мовы і выдання беларускамоўнай газеты[2]. Але ўжо вясной 1918 г. пратаколы пасяджэнняў Рады БНР зафіксавалі досыць кур'ёзны выпадак, які, аднак, сведчыў аб змене поглядаў на ролю мовы: Палута запатрабавала перакласці на беларускую мову выступленне прадстаўніка ад польскай фракцыі, а пасля сама стала выступаць па-руску. З залы данеслася рэпліка: "Перакласці на



[1]*Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Ф. 63, воп.1, спр. 166, л. 261-262.*
[2]*Я. Лёсік. Творы. Мінск, 1993. – С. 137.*



ты, Усевалад Ігнатоўскі. Ён адразу давёў прысутным гістарычныя памылкі іх партыі. Апошнія зводзіліся якраз да стратэгічных захадаў, з якімі непасрэдна была звязана П. Бадунова. Першай памылкай было названа аднаўленне пад польскай акупацыяй Рады БНР замест стварэння прабальшавіцкага рэўкома. Другой – адмова эсэраў ад удзелу ва ўрадзе новаабвешчанай ССРБ ў 1920 г.

У. Ігнатоўскі зазначыў, што іншага шляху, як шлях Кампартыі няма, немагчыма задумваць і рабіць рэвалюцыю інакш, чым гэта партыя. Былы паплечнік пажадаў эсэрам надалей працаваць пад сцягам Кампартыі.

Рэзалюцыя з'езда фактычна вынесла прысуд той частцы партыі, да якой прыналежыла П. Бадунова і яе пражскія паплечнікі: «Выказаць ганьбу шкоднай чыннасці сяброў партыі, якія знаходзяцца за кардонам і сваімі ўчынкамі толькі дапамагаюць буржуазіі ў яе нападах на Рабоча-Сялянскую Беларусь, і забараніць ім ўсякія выступленні ад імя партыі»[1].

Як і прадчувалі арганізатары з'езду, звестка аб ім з'явілася моцным ударам для П. Бадуновай. Яе свядомасць не вытрымала палітычных і асабістых патрасенняў, здрады былых таварышаў і хвароба перарасла ў псіхічнае растройства. Новы 1925 г. П. Бадунова сустрэла зусім інакш за папярэдні – у лякарні для нервовых захворванняў у пражскім прадмесці Богніца. Тут яна правяла спачатку каля двух тыдняў, а потым, з перарывамі, амаль і ўвесь год.

Яе хвароба ўзрушыла пражскіх беларусаў, не пакінула абыякавымі ні сяброў ні апанентаў. Я. Станкевіч напісаў 29.01.25 В. Ластоўскаму: «З Бадуновай блага. Яна хворая псіхічна, праўда, у лёгкай форме. Была два тыдні ў вар'яцкім доме. Цяпер, здаецца, ёй ляпей, аднак нэрвы надта напяты. Калі будзеце ёй пісаць, аб гэтым не спамінайце ёй, бо ўсялякае асаблівае зварочванне на яе ўвагі ёй шкодзіць»[2].



[1]*НАРБ. Ф. 60, воп. 3, спр.798, л. 10–11.*
[2]*Архівы БНР. – Т. 1 – Ч. II. – С. 1498, 1561.*

было атрымана «выдатна», а па апошняй – «добра»[1].

Аднак надалей вучоба была перарвана, бо ўнутраны стан П. Бадуновай знаходзіўся на скрайняй мяжы. Назапашаныя за многія гады напружанне, стомленасць, расчараванні ўсё больш даваліся ў знакі.

У дадатак з Беларусі прыйшла навіна, якая перакрэсліла поспехі эсэраў за мяжой: у кастрычніку 1924 г. ў Мінску прайшоў з'езд БПСР, які прыняў рашэнне аб ліквідацыі партыі.

Крок гэты, зразумела, не быў самастойным – яго ініцыятарам і рэжысёрам з'яўляліся бальшавіцка-чэкісцкія структуры БССР. Ціск на эсэраў і навязванне ідэі роспуску партыі пачаліся значна раней і мелі водгук з боку тых членаў ЦК БПСР, што засталіся ў Беларусі – Язэпа Трафімава, Міколы Маркевіча, Марка Асвяцімсякага. У кастрычніку 1923 г., гэта значыць, у момант, калі П. Бадунова толькі дабралася да Прагі, М. Маркевіч паведамляў старшыні Слуцкага камітэта А. Бараноўскаму аб тым, што ўжо складзены адкрыты ліст ці дэкларацыя, якія перададзены на разгляд у Цэнтральнае Бюро КП(б)Б, рыхтуецца выклік членаў ЦК БПСР у Мінск для інструкцый. Выяўлялася, што вядзецца таксама актыўная апрацоўка прадстаўнікоў замежных эсэраўскіх арганізацый як у Літве, так і ў Заходняй Беларусі і Празе. Аўтар ліста прызнаваўся, што найбольшыя клопаты звязаны якраз з Прагай: пасланы Т. Грыбу «вялікі ліст» застаўся без адказу, а адносна Бадуновай спадзяваннняў на паразуменне не было наогул. Не без кпінаў М. Маркевіч пісаў: «зараней чую, што Бадунісе прыдзецца адхварэць троха, а потым заняцца пісаннем памфлетаў па майму адрасу, вядома ж не пахвальных. Магчыма, што будзе напісаны мемарандум у Лігу Нацый»[2].

Удзел у з'ездзе прынялі 40 дэлегатаў ад усіх эсэраўскіх арганізацый у БССР, а таксама ад Заходняй Беларусі. Вітаў дэлегатаў колішні член ЦК БПСР, а цяпер – ЦК Кампартыі Беларусі і народны камісар асве-




[1]ЦДАВО України. Л. 7– 14.
[2]НАРБ. Ф. 60, воп. 3, спр. 800, л. 3.



беларускую!", што выклікала агульны смех[1].

Умацаванню нацыянальнай свядомасці і ўсведамленню ролі мовы як чынніка нацыянальна-палітычнай кансалідацыі спрыялі актыўныя кантакты не толькі з палітыкамі, але і з дзеячамі беларускай культуры. Улетку 1918 г. на працягу месяца П. Бадунова жыве ў сям'і вядомага літаратара Антона Лявіцкага (Ядвігіна.Ш) на хутары Карпілаўка каля Мінска. Вечарамі з цікавасцю слухала яна расповяды гаспадара пра Алаізу Пашкевіч-Цётку, пра дзеячоў «Нашай Нівы». На кватэры Язэпа Мамонькі разам з палітыкамі збіралася мастацкая інтэлігенцыя, чыталі літаратурныя творы, спявалі беларускія песні. На адной з такіх імпрэз П. Бадунова слухала ў аўтарскім выкананні гістарычную п'есу Францішка Аляхновіча «Бутрым Няміра»[2].

Нарэшце П.Бадунова сама становіцца абаронцай беларускай мовы. Яна рыхтуе да друку артыкул "Нет врагов", дзе ўздымае сур'ёзную для нацыі праблему, калі акурат самая блізкая да народу інтэлігенцыя – настаўнікі сталі сілай, «которая возстала против воскресения народной души – его языка, его национального самоопределения». Шукаючы карані гэтай з'явы, П. Бадунова па сутнасці выкрыла заганнае наступства выхавання мясцовага настаўніцтва ў ідэалогіі «западно-русизма». Гэта дактрына прывяла да фарміравання думкі пра рускую культуру як гарантыю нацыянальнай ідэнтычнасці, а беларускасць настаўніцтва лічыла праявай польскасці, небяспечнай стратай культурнай і палітычнай самастойнасці: «Запуганным учителям казалось, что введение белорусского языка в школах совершенно отторгнет Белоруссию от России и, предоставленная самой себе, Белоруссия, в силу своей политической неорганизованности отойдет вновь к Польше». Артыкул заклікаў інтэлігенцыю пераадолець страх і недавер перад беларускасцю і аддаць свае сілы культурна-нацыянальнаму адраджэнню і сацыяльнаму пераўтварэнню Беларусі[3].




[1]НАРБ. Ф. 62, воп. 1, спр.191, л. 21.
[2]Адраджэнне. – Сш. 1. – С. 273–375.
[3]НАРБ. Ф. 62, воп. 1, спр.166, л. 263–268.

Пачынаючы з 1919 г., большасць аўтографаў самой П. Бадуновай напісаны ўжо па-беларуску, а ў яе анкетах ў адказ на пытанне аб роднай мове пазначана "беларуская". Напэўна, гэтым часам яна абрала сабе і літаратурнае імя – ліст з Варшавы лета 1919 г. упершыню падпісаны "Ветка Палута". Так сталі называць яе і паплечнікі, а маладзейшае пакаленне атаясамляла яе з легендарнай Алаізай Пашкевіч і часам клікала "Цётка Палута".






Цікавілі Бадунову не толькі справы, але і творчыя настроі сяброў. Дзякуючы В. Ластоўскаму за прысылку чарговага нумару «Крывіча», яна піша: «На мяне аграмаднае ўражанне зрабіў верш «Адзінокі». Родны мой! Ці не сябе Вы лічыце адзінокім. Пакіньце Вашы сумныя думкі, за вамі сачаць мільёны вачэй беларускага прыгнечанага народу. І праўду трэба шукаць толькі там, у самай гушчы народнай, ды яшчэ ў сваім уласным сэрцу»[1]. Трэба думаць, што ў гэтай парадзе было выкладзена і ўласнае крэда Палуты.

Палітычныя справы па-ранейшаму займалі асноўны час і сілы. П. Бадунову абіраюць прадстаўляць Цэнтральнае Бюро БПСР у міжнароднай лева-сацыялістычнай арганізацыі – Берлінскім Народніцкім Аб'яднанні. Не без яе намаганняў група Т. Грыба здолела ўмацаваць свае пазіцыі і гэта прымірыла яе сяброў. Палута задаволена паведамляе К. Дуж-Душэўскаму: «мы ўжо даўно забылі свае сваркі і выступаем дружна і згодна»[2].

Захапленне працай давала сілы і адцягвала ўвагу ад хваробы, якая так і не адступала. Пражскі клімат і вугальныя выкіды ў паветра зрабілі лёгачнае захворванне хранічным. Акрамя гэтага ў маі 1924 г. здарылася новая атака набытага пры пераходзе Бярэзіны рэўматызму. Два тыдні прыйшлося правесці ў клініцы, а пасля яшчэ лячыцца мінеральнымі і сонечнымі ваннамі.

Хвароба чарговы раз адарвала ад вучобы. Давялося зноў прасіць кіраўніцтва інстытута аб адпачынку і аб пераносе вясновай сесіі на восень. Іспыты даваліся цяжка, «бо лекцыяў не слухала з-за хваробы, а кніжак саўсім амаль няма, адна, напр., на шэсцьдесят чалавек»[3]. Даводзілася адтэрміноўваць амаль кожны экзамен. Да лістапада 1924 г. з 21 дысцыпліны першага семестра Палута здолела здаць толькі педагогіку, гісторыю старажытнагрэчаскай літаратуры ды ўводзіны ў гісторыю літаратуры. Затое па першых двох

[1]*Архівы БНР. – Т.1. – Кн.II. – С. 1492.*
[2]*Там сама. – С. 1498.*
[3]*Там сама. – С. 1498.*



меў. У выніку ўсе былі задаволены, а сама Палута расчулілася цеплынёй сустрэчы з моладзю: «Мяне яны спаткалі, як тыя дзеці матку».

П. Бадунова зноў з імпэтам бярэцца за справы. Нягледзячы на яе спасылкі на хваробу, а таксама супраціў групы А. Станкевіча з аднаго боку і пракамунітычнай плыні з другога, яе абіраюць намеснікам старшыні Студэнцкай грамады. Пачуццё педагога і старэйшага таварыша не дазваляе ёй адмовіцца: «Грыб упёрся, каб абавязкова я не здымала сваю кандыдатуру, дый мне неяк шкада стала ўсю гэтую бедную моладзь, якая таўчэцца на адным мейсцу і не бача выхаду з палажэння»[1].

Палута прыкладае намаганні каб матэрыяльна дапамагчы беларускім студэнтам, шукае магчымасці аб'яднаць іх. З 350 навучэнцаў толькі палова атрымлівала стыпендыі ад чэхаславацкага ўраду па беларускай квоце, астатніх імкнуліся ўладкаваць па украінскіх і расійскіх. П. Бадунова арганізоўвае збор грашовых ахвяраванняў, дабіваецца, каб Чэшскі Чырвоны Крыж пачаў выдаваць па тры кроны ў дзень на харчаванне, з просьбай аб субсідыі звяртаецца ў чэшскае міністэрства асветы і расійскі Земгор – Аб'яднанне расійскіх земскіх і гарадскіх дзеячоў у Чэхаславацкай рэспубліцы. Адначасова робяцца крокі да адкрыцця бібліятэкі-чытальні з продажам беларускіх выданняў, задумваецца стварэнне курсаў беларусазнаўства.

Акрамя грамадскіх спраў, радасць і задавальненне прыносяць ёй чалавечыя кантакты і новыя знаёмствы. Так, пад час збораў ахвяраванняў яна знаёміцца з Яўгенам Ляцкім – земляком, студэнцкім сябрам Мітрафана Доўнар-Запольскага, сузачынальнікам беларусазнаўства канца XIXст., а цяпер знакамітым літаратарам і выдаўцом, прафесарам Пражскага універсітэта. Цёплыя сяброўскія адносіны завязваюцца з жонкай лідэра расійскіх эсэраў Віктара Чарнова, з якой, як выявілася, Палута сядзела ў адной і той жа маскоўскай вязніцы[2].



[1]*Архівы БНР. – Т.1. – Кн.ІІ. – С. 1493.*
[2]*Там сама. – С.1493.*



Бадунова стала сведкай і ўдзельніцай усёй драматычнай спробы Беларускай Народнай Рэспублікі ўтрымацца.

Ідэалогія левага крыла Беларускай Сацыялістычнай Грамады грунтавалася на спалучэнні рэвалюцыйна-сялянскіх і дзяржаўна-незалежніцкіх пазіцый. Вялікія краіны – Польшчу, Расію, Германію, яно лічыла патэнцыяльнай геапалітычнай небяспекай для Беларусі. Пры гэтым Расіі, як краіне рэвалюцыйнай і сацыялістычнай аддавалася безумоўная перавага перад “панскай” Польшчай і “імперыялістычнай” Германіяй. Таму, калі кіраўніцтва Рады БНР ў красавіку 1918 г. паспрабавала звярнуцца да германскага канцлера з просьбай аб заступніцтве (як гэта фактычна зрабіла суседняя Украіна), паплечнікі Бадуновай успрынялі гэты крок як “здраду рэвалюцыі і беларускаму народу”.

У знак пратэсту Тамаш Грыб, Палута Бадунова, Алесь Карач і Яўхім Бялевіч пакідаюць Народны Сакратарыят і становяцца апазіцыяй у Радзе БНР. Адначасова распадаецца Беларуская Сацыялістычная Грамада. Прыхільнікі левага яе крыла абвяшчаюць пра аб'яднане ў Беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПСР) і ствараюць партыйную фракцыю ў Радзе. У Цэнтральны камітэт новаўтворанай партыі ўвайшлі Тамаш Грыб, Язэп Мамонька і Палута Бадунова. Сваёй мэтай партыя абвясціла барацьбу за ідэалы рэвалюцыі і сацыялізму, заклікала працоўных актыўна ўключыцца ў барацьбу супраць «прыгнёту і самаўпраўства германскіх акупантаў, за ўсталяванне сапраўднага народаўладдзя ў Беларусі».

Эсэры разгортваюць актыўную дзейнасць і дабіваюцца ўмацавання сваіх пазіцый на акупаванай тэрыторыі Беларусі. Шэрагі партыі папаўняюцца, пад яе ўплыў трапляюць Сялянскі і Настаўніцкі саюзы, на тэрыторыі Мінскай і Гродненскай губерняў пад кан-



тролем эсэраў пачынаюць фарміравацца партызанскія атрады – «Сувязь беларускага працоўнага сялянства».

Калі восенню 1918 г. нямецкія войскі сталі паступова пакідаць тэрыторыю Беларусі, а на іх месца прасоўвалася Чырвоная Армія, БПСР паспрабавала перахапіць ініцыятыву ў дзяржаўна-нацыянальным вызначэнні, заклікала працоўных краю правесці па ўсёй тэрыторыі Беларусі выбары ў мясцовыя Рады як паўнапраўныя органы ўлады. Прапаноўвалася неадкладна склікаць 2-гі Усебеларускі з'езд для падцвярджэння і юрыдычнага замацавання незалежнасці БНР[1]. Дзеянні Чырвонай Арміі былі расцэненыя эсэрамі як агрэсія супраць Беларускай рэспублікі. У выніку абвяшчалася тактыка барацьбы супраць "двох акупантаў" – і Германіі, і Савецкай Расіі.

У адрозненні ад правай часткі Рады БНР, эсэры не пакінулі Мінска пасля заняцця яго бальшавікамі. Апошнія паспелі заўважыць БПСР як палітычную сілу, але супернікам яе не лічылі. Аб гэтым сведчыць той факт, што кіраўнікі партыі – Я. Мамонька і П. Бадунова былі арыштаваны адразу пасля вяртання савецкай улады ў Мінск, але ўжо праз суткі вызвалены. Бальшавікі знайшлі больш эфектыўны сродак ізаляцыі сваіх палітычных апанентаў – ініцыятыва ў дзяржаўна-нацыянальным будаўніцтве была рашуча ўзята імі ва ўласныя рукі, а БНР кваліфікавалася як варожая савецкай уладзе акцыя "буржуазных нацыяналістаў". У адказ эсэры адмовіліся прызнаць абвешчаную 1 студзеня 1919 г. БССР як марыянетачнае стварэнне і заклікалі да яе байкоту. Аддзяленне і перадача РСФСР Віцебскай, Смаленскай і Магілёўскай губерняў толькі падмацавалі антысавецкія пазіцыі БПСР.

Але неўзабаве вызначальны знешнепалітычны фактар змяніўся з усходняга на заходні. З пачаткам 1919 г. польскія войскі Юзэфа Пілсудскага сталі паступова прасоўвацца на тэрыторыю Беларусі. 23 красавіка яны занялі Вільню і рушылі далей. Ю. Пілсудскі




[1]*Палітычныя партыі Беларусі. Мінск : Згода, 1994. – С. 173.*



самыя песімістычныя думкі, прадчуваўся трагічны зыход. Аб драматызме сітуацыі дае ўяўленне напісаны ў гэтыя дні ліст да В. Ластоўскага і К. Дуж-Душэўскага ў Коўна:

*«Родныя мае таварышы Вацлаў і Клаўдзій!*

*Я хварэю ўсё цяжэй і цяжэй. У мяне праступная жаноцкая хвароба, высокая тэмпература, я аслабла і саўсім адна. Беларусы, акрамя маладзейшага т. Бусла, мяне не даведваюцца. Дый гэта ўжо не ўпершыню. У турмах і на шляхах і ўсюды я адна. Няма маёй сястры, майго ангела-храніцеля і я чуюся як былінка ў полі. Ноччу жар, цягну рукі і няма каму вады падаць. Мо заўтра перавязуць мяне ў бальніцу. Украінскі доктар Літаў глядзіць за мной... у яго пакіну ўсе свае лісты і паперы. Хто ведае, што будзе са мной. А памру, памятайце – некаліс перавязіце мяне ў Менск. Цяпер пішу Вам, як найхутчэй закладвайце Нац[ыянальны] Каміт[эт] і Ластоўскі на чале. Яны тутака ўжо заклалі нейкую Белар[ускую] Раду ў Чэхаславакіі. Пераймайце справы ў Літве ў свае ўласныя рукі. Мамонька, Грыб – ня ведаю, што робяць, я з імі ў нязгодзе..."* [1].

Але да канца 1923 г. хвароба стала адступаць і П. Бадунова з большага акрыяла, хаця за здароўе прыходзілася напружана змагацца. Адзначаючы ў лісце В. Ластоўскаму, што справы ў працы наладжваюцца, Палута скардзілася: «Толькі тое і няшчасьце, што не хапае здароўя. Робяць мне ўколы мышьяку. Дзень чуюся нічога, дзень ляжу. Ну проста цягну лямку непасільную. А тут яшчэ розныя душэўныя цяжкія перажыванні не даюць пакою»[2].

Тым не менш, новы 1924 г. пачаўся шчасліва. Хапіла сіл нават дапамагчы рыхтаваць яго сустрэчу разам з вялікай грамадой беларускіх студэнтаў. Сумесна вырашылі сабраць са стыпендыятаў такую суму, каб у свяце маглі паўдзельнічаць і тыя, хто стыпендый не




[1]*БДАМЛіМ. Ф.3, воп.1, спр. 256, л. 64, 64-адв.*
[2]*Архівы БНР. – Т.1. – Кн.II. – С. 1493.*

уплывам унутранных і знешнепалітычных абставін, пачыналася перагрупоўка эміграцкіх сілаў. Гэта адбілася і на групе Т. Грыба: першымі пахіснуліся пазіцыі Я. Мамонькі, які пайшоў на кантакты з А. Цвікевічам і П. Крэчэўскім. Як стала вядома, віну за разлад пражскага асяродка Я. Мамонька ўскладаў на непрымірымасць і зацятасць П. Бадуновай. Для апошняй гэта аказалася чарговым ударам і было ўспрынята як здрада. Між блізкімі сябрамі ўзнікла адчужанасць.

У гэтыя лістападаўскія дні 1923 г. П.Бадунова пераязджае на ўласную кватэру ў Збраслаў, прыгожы прыгарад ў 10 кіламетрах ад Прагі па абодвы берагі ракі Влтавы. Але нарадавацца прыдатным умовам не давялося. Праз тры дні па пераездзе Палута зноў раптоўна захварэла. Стан быў такі, што “ледзьве не адправілася за адну ноч к бацьку Аўрааму ”[1]. Дапамог украінскі доктар, выкладчык Вышэйшага Украінскага інстытута Сцяпан Літаў, які жыў тут жа ў Збраславе. Ён паставіў дыягназ – двухбаковае запаленне лёгкіх, і прымусіў тыдзень ляжаць у ложку.

Палута вымушана была пакінуць не толькі палітычныя справы, але і вучобу. На імя дырэктара інстытута зноў была паслана заява з просьбай аб адтэрміноўцы заняткаў: «Гэтым прашу Пана Дырэктара дазволіць мне двухтыдневы водпуск на мэту лячэньня. Пасьведчаньне аб маей хваробе доктара Літава пры гэтым прыкладаю. 12.11.23 г. П. Бадунова». Даведка пацвярджала, што «студентка Бадунова Пелагія є дійсно хвора на cat. Pulmonum… та dusmenorrhoca, не може їздити до Праги на протязі двох тижнів»[2].

Просьба была задаволена, але адтэрміноўка расцягнулася на месяц, бо да адной хваробы далучыліся іншыя, а фізічныя пакуты дапаўняліся душэўнымі. Сябры не наведвалі, даглядала Палуту яе гаспадыня-чэшка і руская эмігрантка, жонка В. Булгакава – колішняга сакратара Льва Талстога.

У адзіноце ў цяжкія хвіліны хваробы прыходзілі




[1] *Архівы БНР. – Т. 1. – Кн. ІІ. – С. 1468.*
[2] *ЦДАВО Украіны. Ф. 3972, воп. 1, спр. 311, л. 4–5.*



выдаў адозву “Да жыхароў былога Вялікага княства Літоўскага”, ў якой абгрунтаваў сваю вызвольную ад бальшавікоў місію і дэклараваў мэту стварэння пад эгідай Польшчы канфедэрацыі народаў былой Рэчы Паспалітай. Беларусам была абяцана падтрымка ў стварэнні ўласнага войска і аднаўленне дзейнасці Рады і ўрада БНР.

Як і іншыя беларускія партыі, эсэры з насцярожанай зацікаўленасцю паставіліся да лозунгаў Ю. Пілсудскага. З’явілася спадзяванне на ўзаемаразуменне на аснове агульнасці гістарычнага лёсу і нацыянальных задач, на салідарнасць з сацыялістычнымі коламі Польшчы, якія адыгрывалі там даволі актыўную ролю. У выніку эсэры катэгарычна не падтрымалі ўтварэнне бальшавікамі 27 лютага 1919 г. Літоўска-Беларускай рэспублікі і пайшлі на кантакты з польскімі ўладамі. Адпаведна, гэты крок адразу абвастрыў канфлікт з бальшавікамі. Ужо з вясны 1919 г. на савецкай тэрыторыі эсэры пераходзяць на нелегальнае становішча, а восенню тут распачынаюцца арышты актывістаў партыі. Але здаваць пазіцыі і пакідаць Беларусь эсэры не збіраліся і асуджалі сваіх паплечнікаў, якія перабіраліся за мяжу.

У той жа час магчымасць саюза з Польшчай эсэры абумоўлівалі захаваннем поўнага суверынітэту беларускага руху і катэгарычна адмаўлялі ўступкі ў дзяржаўна-палітычных пытаннях. Яны ці не першымі заўважылі ў фактах арыштаў беларускай інтэлігенцыі і закрыцця беларускіх школ рэпрэсіўныя памкненні польскіх улад.

На беларускім з’ездзе Віленшчыны і Гродзеншчыны, скліканым польска-лаяльнай групай на чале з Браніславам Тарашкевічам у Вільні 9–10 чэрвеня таго ж 1919 г., эсэраўская дэлегацыя адкрыта заявіла аб сваёй апазіцыі да праяў польскіх экспансіяніцкіх планаў і дамаглася прыняцця з’ездам рэзалюцый аб поўнай падтрымцы ідэі незалежнай і непадзельнай Беларусі. У адказ па абвінавачанні ў нібыта заклікy да антыпольскага паўстання быў арыштаваны лідэр партыі Тамаш Грыб. Пасля зняволення ў Гродна яго



перавозяць у варшаўскую турму.

П. Бадунова неадкладна пачынае барацьбу за вызваленне таго, хто быў ей дарагі не толькі як паплечнік, але і як чалавек. Яна сама накіроўваецца спачатку ў Гродна, затым у Варшаву шукаць падтрымкі у лідэраў польскіх сацыялістаў. Але намаганні не даюць вынікаў – пасля сямі месяцаў концлагера Т. Грыбу прызначаюць месцам жыхарства Лодзь і забараняюць выехаць на Беларусь. Адзін з самых самаахвярных змагароў за нацыянальную справу пакідае радзіму і больш ніколі не вернецца сюды.

У адсутнасці галоўнага лідэра асноўная роля ў кіраўніцтве партыі кладзецца на П. Бадунову. У Варшаве, адначасова з клопатамі аб вызваленні Т. Грыба, яна імкнецца вырашыць і найбольш вострыя палітычныя праблемы: дамагаецца фінансавай падтрымкі партыйнай дзейнасці на падсавецкай тэрыторыі, спрабуе пераадолець недавер паміж эсэрамі і "паланафільскай" часткай Рады БНР, пераконваючы два бакі пакінуць вузкапартыйныя і асабістыя амбіцыі і аб'яднаць сілы на карысць агульных мэтаў. Рабіла гэта яна з усёй сваёй настойлівасцю і тэмпераментам, аб чым сведчыць кароткая справаздача аднаму з бліжэйшых паплечнікаў па партыі К. Дуж-Душэўскаму:

" Сябер Душэўскі!

Я ў Варшаве. Толькі што прыехала з Горадні. Бачылася ужо і гаварыла з А. Луцкевічам, Тарашкевічам. Алексюком. Яны саўсім не ведаюць, што робіцца у нас у Менску, так вяліка іх адарванасць… За Грыба сягодня гаварыла з польскім сацыялістам Марачэўскім і іншымі, заўтра пайду да Асмалоўскага… У Горадне я аставіла просьбу і партыйны прыказ, каб усе партыйныя сілы ехалі працаваць на радзіму, у Менск, я іх тутака ўсіх і ўсё разнясла. Бо яны едуць у Коўна і куды ўгодна, а саўсім забываюць аб Менску…" [1].

Спадзяванні эсэраў на саюз з Польшчай хут-



[1] *БДАМЛіМ. Ф. 3, воп. 1, спр. 144, л. 1. спр. 152, л. 31.*



цэнтр за граніцай.

Цяпер апаненты апынуліся побач, што толькі абвастрыла і заблытала сітуацыю. Ужо першыя кантакты і спробы знайсці паразуменне не далі поспеху. Група А. Цвікевіча і П. Крычэўскага імкнулася засведчыць сябе як законна абраная, паўнамоцная структура. Імкнучыся сцвердзіцца як афіцыйны лідэр эміграцыі, А.Цвікевіч актыўна ўключаецца ў дзейнасць "Вольнай Грамады", шукае кантакты з украінцамі, выступае перад беларускімі студэнтамі.

У зацятым саперніцтве палітычны сэнс часам адыходзіў на другі план перад асабістымі амбіцыямі, а метады барацьбы зводзіліся да інтрыгі. Драматызм сітуацыі палягаў у тым, што застаючыся патрыётамі, кожны з бакоў разумеў згубнасць унутранай барацьбы і неабходнасць яднання сіл. Але адрынуць узаемныя крыўды і прэтэнзіі не ўдавалася. Гэта ў поўнай меры датычыла і П. Бадуновай.

З аднаго боку, яна выдатна разумела, што раскол ужо значна паслабіў беларускі палітычны рух, шкодзіў яго і без таго слабой міжнароднай падтрымцы, кампраметаваў перад магчымымі саюзнікамі. П. Бадуновай ужо прыйшлося выслухаць ад прадстаўнікоў "з боку"– ад расійскіх і украінскіх эмігрантаў балючыя словы аб тым, што кожны з беларускіх дзеячоў за граніцай жыве асабістымі перажываннямі, плёткамі ды звадкамі, а ідэёвая справа стаіць ад іх далёка[1]. Яна разумее палітычную неабходнасць яднання сілаў і шчыра імкнецца пераадолець ўласныя амбіцыі, звадкі і інтрыгі, якія «на сьмерць забіваюць нашу партыю як сацыялістычную»: «..мо прыдзецца шмат выбачыць, шмат каго падцягнуць і ўсім разам падцягнуцца, але ворагам – палякам і камуністам, ня можна даваць аружжа ў рукі, а то яны добра на свой бок скарыстаюць наш развал за граніцай».

На справе дасягнуць узаемнасці пры назапашаных крыўдах і недаверы было амаль немагчыма. Тым больш, што з прыбыццём у Прагу новых дзеячоў, пад



[1] *Архівы БНР. – Т. 1. – Кн. II. – С. 1478.*

С. Русава (дыдактыка), інш. Грамадазнаўчыя дысцыпліны выкладалі тут вядомыя палітыкі, былыя міністры Украінскай Народнай Рэспублікі С. Шалухін і Д. Дарашэнка.

Але пачаць навучанне не атрымалася, што вынікае з новай заявы «слухачкі П. Бадуновай», дасланай праз два тыдні пасля першай: «Гэтым паведамляю В[ышэйшы] П[едагагічны] І[нстытут], што прыехала да Прагі з мэтай паступлення да Інстытуту яшчэ 20-га верасьня г.г., але увесь час была хворая і ня мала магчымасьці зьявіцца»[1].

Нягледзячы на стан здароўя і заняткі ў інстытуце, асноўным клопатам застаецца сітуацыя ў беларускім асяродку. З прыездам П. Бадуновай пражская група эсэраў яскрава бярэ курс на набыццё ролі агульнапартыйнага цэнтру.

Т. Грыб пры падтрымцы П. Бадуновай і Я. Мамонькі абвяшчае стварэнне ў Празе альтэрнатыўнага ковенскаму Камітэта Загранічных груп, у якім да гэтага часу не засталося паплечнікаў пражскай групы, Бюро ЦК БПСР як вышэйшага кіруючага агульнапартыйнага органа. У афіцыйным «Паведамленні» ад імя ўсёй партыі была асуджана дзейнасць ковенскага камітэта і абвешчаны незаконнымі ўсе створаныя ім структуры: Рада БНР на чале з П. Крэчэўскім, урад А. Цвікевіча, Беларуская сялянская рада ў Літве, інш. Замест іх было запланавана закласці ў Коўна Нацыянальны беларускі камітэт, ўзначаліць які даручалася К. Дуж-Душэўскаму.

Тым часам пасля разрыву беларуска-літоўскай дамовы лёс беларускага палітычнага эміграцкага цэнтра ў Літве быў вырашаны – праз пэўны час П. Крэчэўскі і частка ураду БНР на чале з А. Цвікевічам таксама перабіраюцца ў Прагу. Чэшскія ўлады не маглі дазволіць ім статус урада на выгнанні, таму былі ўтвораны нібыта не палітычныя структуры – Беларуская Рада ў Чэхаславакіі і Беларускі нацыянальны




[1] *ЦДАВО України. Ф. 3972, воп. 1, спр. 311, л. 2.*

ка развеяліся. Неўзабаве яны ўтвараюць Беларускі паўстанцкі камітэт для разгортвання антыпольскай барацьбы, адным з кіраўнікоў якога таксама становіцца П. Бадунова. Адначасова канферэнцыя БПСР прымае рашэнне аб разрыве кааліцыі з "паланафільскімі" партыямі.

Асаблівага накалу супярэчнасці дасягнулі пры падрыхтоўцы да аднаўлення работы Рады БНР. Гэта пытанне з'яўлялася адным з галоўных для захавання суверэннасці беларускага руху. Але польскі бок, відавочна, імкнуўся трымаць беларускіх дзеячоў пад поўным кантролем і адцягваў дазвол сесіі Рады. Між тым, яе правае крыло баялася самастойнай і адкрытай акцыяй справакаваць новыя рэпрэсіўныя захады з боку польскіх палітыкаў. "Паланафілы" лічылі таксама, што да ўрадавых акцый беларускі рух пакуль не даспеў і на гэтым этапе неабходна засяродзіцца на культурніцкай і арганізацыйнай рабоце.

Эсэры ж, наадварот, абсалютным прыярытэтам ва ўмовах барацьбы за дзяржаўнасць лічылі пытанні палітычныя і аднаўленню Рады надавалі прынцыповае значэнне. Паслядоўна рэпрэзентуючы пазіцыю сваёй партыі, П. Бадунова распачынае настойлівую барацьбу за скліканне сесіі Рады і згуртаванне палітычных сіл. Яна пераконвае у неабходнасці гэтай справы старшыню Рады Міністраў Антона Луцкевіча, каторы гэтым часам знаходзіўся ў Варшаве і вёў напружаныя перамовы з польскімі ўладнымі коламі, уключаючы і Ю. Пілсудскага.

Само ўрачыстае адкрыццё Рады 12 лістапада 1919 г. прадэманстравала, што эсэры катэгарычна адстойваюць прынцыпы, сцверджаныя Трэцяй Устаўной граматай БНР. У адказ на прапанову прэзідыума паслаць прывітальную тэлеграму Ю. Пілсудскаму ад імя сваёй партыі П. Бадунова абвясціла: "Фракцыя БС-Р будзе дабівацца, каб Рада Рэспублікі стала на грунт поўнай незалежнасці і непадзельнасці БНР, ведаючы, што толькі поўная незалежнасць дзяржаўнага жыцця беларускага народа дасць нашай маладой дзяржаве застанавіць усе тыя, шкодныя для Беларусі ўплывы





з розных бакоў, якія мы бачым да гэтага часу,…дасць беларускаму народу сілу нацыянальна з'яднацца і параўняцца з іншымі народамі як культурна, так і эканамічна». Эсэры заявілі, што будуць дабівацца "спынення таго страшнага тэрору", які творыцца на Беларусі супраць сялянства і інтэлігенцыі, і абвясцілі адкрытую барацьбу "польскай эндэцыі, патапіўшай у крыві правы вольнага Беларускага Народу". Адначасова абвяшчалася актыўная барацьба і з "другой імперыялістычнай Маскоўска-Дзянікінскай сілай, якая ідзе з Усходу"[1].

Фракцыя эсэраў прапанавала рэзалюцыю, у якой дэкларавалася, што "Рада… падцвярджае пастанову сваю ад 25 марца 1918 году аб поўнай незалежнасці і непадзельнасці БНР у яе этнаграфічных межах. Рада БНР павядзе сваю працу ў кірунку здабыцця прызнання перад народамі ўсяго свету поўнай незалежнасці і непадзельнасці БНР ў яе этнаграфічных межах…". Радзе Народных Міністраў даручалася неадкладна ўступіць у міжнародныя перамовы аб юрыдычным і фактычным прызнанні БНР. Рэзалюцыя была прынята аднагалосна [2].

Правым крылом рашучыя дзеянні эсэраў і іх нежаданне ісці на кампрамісы былі расцэнены як спроба манапалізацыі кіраўніцтва Радай. У выніку 13 снежня замест запланаванага агульнага пасяджэння Рады адбыліся два. У Юбілейным доме (будынак былога Царкоўна-археалагічнага музея) сабралася большасць дэлегатаў, якія заслухаўшы дэкларацыю П. Бадуновай аб разрыве з "буржуазіяй" і "буржуазным ўрадам", пастанавілі абраць новы склад Рады, якую назвалі Народнай. Пры ёй фарміраваўся новы ўрад. У выніку галасавання старшыней Народнай рады аднагалосна быў абраны Пётра Крэчэўскі, яго намеснікамі – Васіль Захарка і Палута Бадунова. У Кабінет міністраў, які ўзначаліў Вацлаў Ластоўскі, увайшлі пераважна эсэры: Янка Белевіч, Тамаш Грыб, Аляксандр Цвікевіч,




[1]*НАРБ. Ф. 60, воп. 3, спр. 770, л.74; Архівы БНР. Т. 1. Ч. І. С. 488–489.*
[2]*Архівы БНР. – Т. 1. – Ч. І. – С. 489*



кі дазваляла здароўе, уключалася ў работу. Разам з украінскімі эсэрамі ўдзельнічае ў стварэнні "Вольнай Грамады" – своеасаблівага клуба, дзе сустракаліся ветэраны і моладзь вызвольнага руху, чыталіся лекцыі і даклады, праводзіліся дыскусіі і ўрачыстыя вечарыны. Клуб аказаўся не толькі эфектыўнай формай сацыялістычнага выхавання эмігранцкай моладзі, але і абяцаў перспектывы дзяржаўнага значэння. П. Бадунова ацэньвала яго так: "Гэта як бы школа народніцтва, куды можа прыходзіць кожны, хто цікавіцца, паслухаць даклады і дэбаты. А разам з тым уваходзяць туды і ўсе бел[арускія] і украінск[ія] эс-ры. Вельмі думка добрая і карысная як для развіцця народніцкіх ідэй, так і для гуртавання моладзі, а разам тут закладаецца моцны фундамент узаемаадносін паміж сацыялістычнай Украінай і такавой жа Беларуссю. У будучыне такія знаёмства і такое цеснае сяброўства памогуць нам устанавіць добрыя адносіны паміж маладымі нашымі рэспублікамі "[1].

Украінскія эмігранты аказалі значную падтрымку самой Палуце: ёй была выдзелена стыпендыя ва Украінскім Вышэйшым педагагічным інстытуце імя М.Драгаманава, а таксама грашовая дапамога ад Украінскага Грамадскага камітэта.

Паступленне ў Інстытут імя Драгаманава стала адным з першых крокаў у Празе. Тут праявілася імкненне не толькі набыць нейкі сталы статус, але і давяршыць адукацыю, якая так і не была закончана ў свой час у Пецярбургу. 2 кастрычніка 1923 г., калі заняткі ў Інстытуце ўжо ішлі, П. Бадунова падае на імя дырэктара Інстытута заяву з просьбай залічыць яе на гісторыка-літаратурнае аддзяленне, «на Підвідділ Української мови й літератури, як слухачку». Выбар украінскай мовы, як найбольш блізкі роднай беларускай, быў зразумелы. Прывабліваў і склад выкладчыкаў: на аддзяленні працавалі такія аўтарытэтныя навукоўцы як прафесары Л. Білецкі (украінская літаратура), рэктар інстытута В. Сімовіч (мовазнаўства),




[1]*Архівы БНР. – Т. 1. – Ч. ІІ.– С. 1474–1475.*

П. Бадунова застаецца адданым паплечнікам В. Ластоўскага. З Прагі ў Берлін, а затым у Коўна, дзе стала пасяліўся Вацлаў Юстынавіч, рэгулярна ідуць лісты-справаздачы аб справах, сумесна абмяркоўваюцца планы і праблемы. В. Ластоўскі, па магчымасці, аказвае ёй фінансавую дапамогу, дасылае ковенскія беларускія выданні, часопіс "Крывіч", які выдаваў сам.

Магчымасці рэальнай практычнай працы натхняюць П.Бадунову, але здароўе цягне назад, прымушае карэкціраваць планы: "Усё добра, але вось што ліха. Жыць у Берліне не маю ніякае магчымасці – не хапае сілаў фізічных… Мусіць я застануся тут не меней як да Каляд. Сілы мае саўсім падупалі. Мне трэба папраўіцца". Было відавочна, што ў Чэхіі прыдзецца застацца надоўга, тым больш, што сюды перабіралася з-за хваробы і сястра К. Дуж-Душэўскага Анэта – сяброўка і паплечніца.

П. Бадунова жыла ў доме Я. Мамонькі. Пачувала яна сябе тут не вельмі камфортна – «Жыву ў Язэпа на хлябах. Бьецца ён тутака, як рыба аб лёд. Жонка слабая і хваравітая»[1], – пісала яна В. Ластоўскаму. Але змяніць умовы не хапала сродкаў.

Тым не менш, пры гэтых цяжкасцях перспектыва пражскага жыцця выглядала досыць аптымістычна, а галоўны клопат быў пра справу, пра карыснае выкарыстанне сваіх сілаў: "А к Калядам мо к лепшаму ўсё нарыхтуецца, і я адпачыну, напьюся досыта малака, прывяду ў парадак свае сілы і сваіх таварышаў, якія тутака распусціліся, як рожы ў садзе, і нічога не робяць… Трэба клюб. Я ўжо зрабіла разам з Язэпам адзін сход. На другім пакончым справу. Перавязу сюды Анэтку – будзе народныя бел[арускія] песьні спяваць. Сама ж буду чытаць лекцыі па літэратуры. Наогул пастараюся, каб час майго тутака жыцця не прайшоў бязследна"[2].

І сапраўды, Палута старалася з усіх сіл. Як толь-



[1]*Архівы БНР. – Т. 1. – Ч. ІІ. – С. 1462.*
[2]*Там сама – С. 1461.*

Леанард Заяц.

Адначасова астатняя частка дэпутатаў абвясціла, што "…частка членаў фракцыі соц.-рэв. зрабіла змову, каб захапіць законную ўладу Рады Рэспублікі"[1]. Правыя дзеячы правялі выбары ў Найвышэйшую Раду – своеасаблівую Дырэкторыю з 5 асоб, якімі былі прадстаўнікі старога кіраўніцтва Язэп Лёсік. Янка Серада, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Кузьма Цярэшчанка і Аляксандр Уласаў.

Такім чынам адбылося арганізацыйнае афармленне двух кірункаў беларускага руху – правае крыло, якое згуртавалася вакол Найвышэйшай Рады, ўяўляла сабой сацыял-дэмакратычную рэфарматарскую плынь, а левае на чале з эсэрамі – рэвалюцыйна-сацыялістычную. Наступствы гэтага расколу і канфрантацыі сталі па-сапраўднаму драматычна-лёсавызначальнымі, як для ўсёй беларускай справы, так і для прадстаўнікоў абодвух цэнтраў.

Першымі адчулі ціск якраз эсэры. Іх дзейнасць была расцэнена як антыпольская і выклікала рэпрэсіўныя захады акупацыйных уладаў. В. Ластоўскі і яшчэ некалькі членаў яго ўрада былі арыштаваны. Праз месяц зняволення, на пачатку 1920 г., яны былі вымушаны выехаць у Рыгу, дзе пачалі фармаванне эміграцыйных беларускіх палітычных структур, сярод якіх адной з першых была закладзена Цэнтральная Заграгранічная Рада БПСР.

Праз кароткі час эсэраўскі цэнтр у замежжы быў перанесены ў літоўскі Коўна. Кіраўніцтва Літоўскай Рэспублікі спадзявалася на падтрымку беларусаў у вырашэнні на сваю карысць пытання аб дзяржаўнай прыналежнасці Вільні і ў процістаянні Польшчы. Таму яно пайшло на падпісанне беларуска-літоўскай умовы аб дазволе ўраду БНР весці дзяржаўна-палітычную дзейнасць на тэрыторыі Літвы і аб яго фінансавай падтрымцы. Прадстаўленыя Літвой магчымасці былі скарыстаны: у Коўне неўзабаве размяшчаецца асноўная частка ўраду В. Ластоўскага, тут адбываецца



[1]*Архівы БНР. – Т. 1. – Ч. І. – С. 489.*

канчатковае афармленне замежных эсэраўскіх структур. Пасля адзінаццацімесячнага зняволення сюды прыязжае Т. Грыб, па прапанове якога Цэнтральная Загранічная Рада БПСР пераўтвараецца ў Камітэт Загранічных груп БПСР як агульнапартыйны кіруючы цэнтр за мяжой.

Частка эсэраў, што засталася на тэрыторыі Беларусі пад польскай акупацыяй, была вымушана перайсці на нелегальнае становішча. ЦК партыі па-поўніўся новымі сябрамі – Яўсеем Трафімавым, Мікалаем Маркевічам, Маркам Асвяцімскім, Андрэем Бараноўскім. Але фактычнае лідэрства тут па-ранейшаму належыла Язэпу Мамоньку і Палуце Бадуновай. Прычым ме-навіта апошняя адыгрывала галоўную ролю як ў выпрацоўцы партыйных тактыка-стратэгічных падыходаў, так і ў арганізацыйных захадах.

ЦК БПСР падцвердзіў мэту барацьбы за незалежную беларускую рэспубліку ў этнаграфічных межах. Галоўным праціўнікам у яе дасягненні па-ранейшаму дэкларавалася польская акупацыя. Але станавілася відавочным, што найбольш актуальнай праблемай для партыі зноў становяцца бальшавікі, ваенныя і палітычныя фармаванні якіх канцэнтраваліся на ўсходніх межах Беларусі. Нягледзячы на ацэнку іх як “маскоўскага імперыялізму”, якраз ў іх эсэры маглі сустрэць адзінага саюзніка ў барацьбе з польскай экспансіяй. Перадумовай палітычнага збліжэння з’яўлялася і ідэйна-праграмная падобнасць і левасацыялістычныя прынцыпы дзвюх партый,.

Са свайго боку, бальшавікі ўважліва сачылі за расстаноўкай сілаў у беларускім нацыянальным руху і менавіта эсэраў яны прызнавалі рэальнай палітычнай сілай. ЧК даносіла, што гэта партыя “мае значныя сувязі сярод беларускага сялянства і аказвае на яго арганізаваны рэвалюцыйны ўплыў”. Асабіста П. Бадунова ацэньвалася як другі, пасля Т. Грыба, лідэр партыі і “энэргічны работнік” [1].

Раскол ўрадавых органаў БНР быў неадкладна




[1] *НАРБ. Ф.62, воп.1, спр. 773, л. 3.*



«Аб’яднанне беларускага паступовага (прагрэсіўнага) студэнцтва», а больш правая плынь аб’ядналася вакол вядомага грамадскага дзеяча і філолага Янкі Станкевіча і мела сваім друкаваным органам часопіс «Беларускі студэнт». Размежаванне і саперніцтва груповак зніжала і без таго невялікі, параўнальна з расійскай і украінскай, патэнцыял беларускай эміграцыі, адцягвала сілы на ўнутраную барацьбу.

Апынуўшыся ў Празе, П. Бадунова хутка зразумела сітуацыю і, нягледзячы на хваробу, усімі сіламі ўцягваецца ў справы. Ужо праз тыдзень В. Ластоўскаму яна накіравала пасланне, якое сведчыла, што Палута ўжо жыве пражскімі падзеямі і планамі.

Палута з трывогай паведамляе, як ад прыехаўшых з Вільні «хлопцаў» даведалася, што Віленскую беларускую гімназію пакінулі каля трэці вучняў з-за немагчымасці плаціць за вучобу. Яна просіць В. Ластоўскага знайсці фінансавыя сродкі для падтрымкі гэтай моладзі. Зварот быў абумоўлены тым, што частку субсідый ад літоўскага ўраду прэм’ер Ластоўскі накіроўваў на падтрымку беларусаў-студэнтаў ў Празе. У адказе Вацлаў Юстынавіч паведаміў, што можа выканаць просьбу толькі часткова, бо яго магчымасці прыватнай асобы цяпер значна абмежаваныя.

Акрамя падтрымкі студэнтаў, П. Бадунова імкнецца наладзіць міжнародныя сувязі. Яна сустракаецца з лідэрам украінскіх эсэраў Мікітам Шапавалам, вывучае вопыт выдання яго партыяй палітычнай газеты і часопіса. Актыўныя кантакты падтрымлівае з нямецкім сацыялістам Штэйнбергам, праз якога дамаўляецца аб публікацыі ў сацыялістычных газетах Германіі мемарандума аб антыбеларускай палітыцы ў Польшчы, таксама аб правядзенні рабочых мітынгаў з удзелам самой П. Бадуновай: “яны абецаюць даць мне добрага перакладчыка і ўсё абставіць, як трэба”. Разумеючы важнасць міжнароднай салідарнасці, Палута выказвае думку аб неабходнасці паездкі ў Англію, дзе варта было б не толькі правесці агітацыю сярод рабочых, але і пашукаць падтрымкі беларускіх сацыялістаў праз II Інтэрнацыянал.



законным, менавіта з-за таго, што ўтвораны не толькі без удзелу, але і без ведама астатніх членаў прэзідыума (гэта значыць самой П. Бадуновай). Для вырашэння пытання прапаноўвалася сабраць Прэзідыум Рады ў Празе не пазней 1 лістапада 1923 г.

Аб сабе Палута паведамляе: «Ці хутка вярнуся ў Берлін, ці не – ня ведаю, бо не маю матэрыяльнай магчымасці, а здароўе зноў раскідалася, тыдзень праляжала ў ложку, аслабнула вельмі»[1].

Але не толькі стан здароўя, а і  сітуацыя ў эмігранцкім асяродку прымушаюць затрымацца ў Празе. Страта Коўна як цэнтра эсэраўскай дзейнасці за мяжой станавілася  ўсё больш відавочнай, а на момант прыезду П. Бадуновай менавіта Прага пераўтваралася ў галоўны асяродак грамадскага і палітычнага жыцця беларускай эміграцыі. У пачатку 20-х  гадоў маладая Чэхаславацкая Рэспубліка дала прытулак эмігрантам, якія выратоўваліся ад бальшавіцкай дыктатуры, забяспечыла магчымасць стварыць свае грамадскія і культурныя арганізацыі, наладзіць выдавецкую дзейнасць, атрымаць вышэйшую адукацыю. Дзякуючы матэрыяльнай падтрымцы чэшскага ўраду і прэзідэнта Томаша Масарыка, тут склаліся значныя асяродкі расійскай, украінскай і беларускай эміграцыі.

Акрамя групы палітычных дзеячоў, беларуская дыяспара ў Празе ў асноўнай масе фарміравалася са студэнтаў вышэйшых навучальных установаў.  Выхадцы з Заходняй Беларусі, Латвіі і Літвы былі пасланы на вучобу па чэшскіх стыпендыях беларускімі эмігранцкімі інстытуцыямі. Акрамя Карлава універсітэта, дзякуючы салідарнасці украінскіх арганізацый, яны мелі магчымасць вучыцца таксама ва ўкраінскіх навучальных установах у Чэхіі: Вышэйшым педагагічным інстытуце імя М. Драгаманава, вышэйшай сельскагаспадарчай акадэміі, інш.

Аднак, як і паўсюдна пражская эміграцыя была арганізацыйна і ідэйна падзелена. Т. Грыб згуртаваў прыхільнікаў лева-сацыялістычнай арыентацыі ў




[1] *Архівы БНР. – Т. 1. – Ч. II. – С. 1452.*

выкарыстаны бальшавікамі як у Маскве, так і на месцы.  Яны пачынаюць актыўна шукаць кантакт з прадстаўнікамі левага крыла палітычных партый, сярод якіх эсэры і іх лідэр П. Бадунова ўяўлялі найбольшую цікавасць.  Па ініцыятыве ЦК Кампартыі Літвы і Беларусі,  ўжо ў снежні 1919 г., адразу пасля расколу кіруючых структур БНР, у Смаленску наладжваюцца перамовы паміж прадстаўнікамі бальшавікоў і беларускіх эсэраў, вынікам якіх стала пагадненне аб сумесным змаганні за аднаўленне беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці. Дакладныя яе формы і сутнасць не вызначаліся, што адпавядала інтэрэсам бальшавікоў. Затое было дамоўлена аб сумеснай збройнай барацьбе супраць польскай акупацыі, для чаго эсэраўскія партызанскія фармаванні злучаліся з бальшавіцкімі ў адзіную Народную ваенную самаабарону, а прадстаўнікі КП(б)ЛіБ увайшлі у склад эсэраўскага Паўстанцкага камітэту[1]. Акрамя Бадуновай у перамовах удзельнічалі Я. Мамонька, Я. Трафімаў, М. Асвяцімскі, Ф. Шантыр. Несумненна, што  Палута адыграла тут адну з галоўных роляў – яе подпіс на пагадненні значыцца першым.

Наважваючыся на саюз з бальшавікамі, беларускія эсэры спадзяваліся, што іх рэальны аўтарытэт і значны ўплыў у краі дазволяць забяспечыць парытэтнасць у палітычным партнёрстве і ў вызначэнні лёсу Беларусі. Сапраўды, на гэты момант партыя фактычна зававявала лідэрства ў нацыянальным руху. Яна налічвала каля 20 тыс. членаў, пад яе ўплывам знаходзіліся  Саюз моладзі, Саюзы настаўнікаў, і паштова-тэлеграфных служачых. Гэта была, бадай, адзіная нацыянальная палітычная сіла, што абапіралася на ўзброеныя сялянска-партызанскія фармаванні.   З боку бальшавікоў блок з беларускімі эсэрамі меў выключна тактычны характар, ён даваў магчымасць выкарыстаць іх уплыў і збройныя сілы у барацьбе з палякамі, а таксама паскорыць раскол і паслабленне беларускага руху.  Саюзніцтва не магло быць доўгім і трывалым.




[1] *Палітычныя партыі Беларусі. – С. 179–180.*

Між тым, адкрытая змена саюзніцкіх арыентацый, як і актыўнасць эсэраў вельмі занепакоілі польскі бок, які неадкладна пачынае вышукі і ізаляцыю іх лідэраў. Па ўспамінах Марыі Бадуновай, на іх кватэру ў Мінску з’явілася некалькі палякаў і запыталі аб Пелагеі Бадуновай. Упэўніўшыся, што яе няма, арыштавалі саму Марыю і на працягу некалькіх дзён дапытвалі аб дзейнасці і знаходжанні сястры.

У лютым 1920 г. удалося арыштаваць і П. Бадунову. Яе змясцілі ў адзіночку спачатку жаночай, а затым адміністрацыйнай мінскіх турмаў. Аб рэжыме зняволення Палута ўспаміняла пазней, што яна ледзь выжыла “пасля страшэнных умоў холаду, ад якога я замярзала смяртэльна і пагрозы тыфусу, ад якога памерла палова арыштаваных” [1].

Праз месяц яе выпусцілі пад нагляд жандармерыі, аднак ён аказаўся недастаткова пільным: з дапамогай сяброў па партыі Бялькевіча, Бердніка і Трафімава была арганізавана пераправа Палуты праз лінію фронту ў Смаленск, дзе знаходзілася кіраўніцтва ЛітБелу і штаб Заходняга фронту Чырвонай арміі – галоўнай антыпольскай ваеннай сілы. Пераход быў цяжкі і вельмі небяспечны: давялося пераадольваць разліў Бярэзіны, часам па пояс у студзёнай сакавіцкай вадзе. Па словах Палуты, “у той час ніводная жывая душа не згаджалася на такі ўцёк, бо палякі вырывалі за гэта вочы, здзекваліся і забівалі”[2].

Між тым візіт ў Смаленск меў выключна важнае палітычнае значэнне. У эсэраўска-бальшавіцкім саюзе наспяваў сур’ёзны канфлікт, у аснове якога ляжала галоўнае для беларускага руху пытанне – дзяржаўнае вызначэнне Беларусі. Калі для бальшавікоў яго перспектывы не былі акрэсленымі і прынцыповымі, а ставіліся ў залежнасць ад знешнепалітычных абставін, то БПСР з вясны 1920 г. абвяшчае сваёй непасрэднай мэтай стварэнне Беларускай Працоўнай Сацыялістычнай Рэспублікі і падрыхтоўку Усебеларускага




[1]ЦНА НАНБ. Ф. 67, воп. 1, спр. 24, л. 41.
[2]Там сама.

лісце да В. Ластоўскага Палута абмалявала сітуацыю: “…калі я прыехала, Тамаш Грыб і Мамонька ўсю ноч правялі ў гарачай лаянцы са мной. Яны даводзілі мне, што я не маю права ехаць да Лігі Нацыяў як сацыялістка, а гэта, мол, арганізацыя буржуазная”. Былі спробы тлумачыць, што міжнародны сацыялістычны рух змяніў сваю тактыку і ідзе на кантакты з буржуазнай дэмакратыяй. І калі беларускі рух шукае падтрымкі нацыянальнай дзяржаўнасці і абароны свайго народа на Захадзе, то «хто ж будзе гаварыць з міравой буржу[уазіяй], з буржуазнымі гаспадарствамі, калі не мы?»[1]. Урэшце Палута абяцала, што ў Жэневе яна дазволіць сабе выступленні толькі перад сацыялістычнымі арганізацыямі, але і гэта не было прынята: Т. Грыб заявіў, што ў выпадку нязгоды, праз прэсу П. Бадунова будзе пазбаўлена партыйных паўнамоцтваў і будзе прадстаўляць на канферэнцыі толькі саму сябе.

Расчараваўшыся, без развітання з сябрамі П.Бадунова выязжае да Берліну, каб, хаця са спазненнем, далучыцца да В. Ластоўскага. Разлад з бліжэйшымі паплечнікамі стаў для яе сапраўдным ударам – “была разстроена да варьяцтва, нават мала помніла, куды і як еду, і на перасадках у Боденбахене і Дрэздэне так прастыла, што з 20 ажна па 28 праляжала ў ложку з павышанай тэмпературай”[2].

З гэтага часу хвароба амаль не адступае ад П. Бадуновай. Ачуняўшы, праз месяц яна вырашае вярнуцца ў Прагу, пастарацца згуртаваць паплечнікаў, захаваць адзінства пражскага эсэраўскага асяродка. «Як не лайся, а трэба згаварывацца», – робіць яна выснову.

Галоўнай задачай сваёй паездкі яна па-ранейшаму бачыла барацьбу ў падтрымку В. Ластоўскага і аднаўленне яго на пасадзе прэм’ера.

Па прыездзе разам з Я. Мамонькам яна складае і падпісвае ліст-зварот, адрасаваны старшыні Прэзідыума Рады П. Крэчэўскаму і віцэ-старшыні В. Захарку, якія сцвярджаў, што ўрад А. Цвікевіча не можа быць




[1]Архівы БНР. – Т. 1. – Ч. II. – С.1451.
[2]Там сама. – С. 1452.

ка паслаць туды і П. Бадунову, калі б яна сюды прыехала. Бо што ёй тут рабіць?”[1].

Была таксама магчымасць накіравацца ў Літву, тым больш, што з дапамогай В. Ластоўскага ўдалося атрымаць літоўскі пашпарт. Але скарыстаць гэты варыянт Палута адмовілася. З адстаўкай В. Ластоўскага пагоршыліся беларуска-літоўскія адносіны. Па гэтай прычыне, а галоўнае пад моцным дыпламатычным ціскам з боку РСФСР, быў скасаваны падпісаны ў 1920 г. беларуска-літоўскі дагавор, які прадстаўляў ураду БНР магчымасць знаходзіцца і весці палітычна-дзяржаўную дзейнасць на тэрыторыі Літвы. У выніку сама магчымасць знаходжання беларускіх палітычных структур у Літве была пастаўлена пад пытанне.

Урэшце ў сярэдзіне верасня 1923 г. П. Бадунова выязджае праз Берлін ў Прагу, дзе па дамоўленасцямі з паплечнікамі па партыі, павінна была адбыцца нарада эсэраўскага кіраўніцтва за мяжой.

У Берліне адбылася апошняя сустрэча з В. Ластоўскім. Экс-прэм’ер ураду БНР якраз спыніўся тут на шляху ў Жэневу, куды быў запрошаны на канферэнцыю былых паняволеных народаў, арганізаваную Лігай Нацый. Па прапанове Ластоўскага П. Бадунова пагаджаецца разам прадстаўляць Беларусь і застаецца ў Берліне для выпрацоўкі місіі беларускай дэлегацыі. Сумесна яны абмяркоўваюць пазіцыі, складаюць мемарыял ад імя беларускага народа, сустракаюцца з прадстаўнікамі дэлегацый Літвы, Украіны, Латвіі, Германіі.

Былі ўжо замоўлены білеты на цягнік, але з-за разнагалоссяў з групай П. Крычэўскага і А. Цвікевіча было вырашана правесці ў Празе Прэзідыум Рады БНР і надаць дэлегацыі афіцыйныя паўнамоцтвы. Палута на адзін дзень накіроўваецца ў Прагу.

Але па прыездзе галоўнай праблемай нечакана сталі не апаненты, а паплечнікі – Т. Грыб і Я. Мамонька. Як сустаршыні партыі эсэраў паездку ў Жэневу яны забаранялі з матываў прынцыпова-ідэйных. У




[1] *Ул. Калеснік. Пражскі эпісталярый // Полымя. 1990. – № 10. – С. 218.*



Працоўнага кангрэса для вырашэння пытання.

Захады эсэраў непакоілі і раздражнялі кіраўніцтва Кампартыі Літвы і Беларусі. Яе ЦК аддаў загад аб палітычнай ізаляцыі БПСР на тэрыторыі Беларусі, у Маскву адпраўлялася скажоная альбо фальсіфікаваная інфармацыя аб дзейнасці эсэраў.

Сустрэча ў Смаленску не прывяла да паразумення і раскрыла П. Бадуновай увесь драматызм сітуацыі. Адчуваючы няшчырасць і несамастойнасць пазіцыі ЦК КП(б)ЛіБ, яна вырашае звярнуцца непасрэдна да вышэйшага бальшавіцкага кіраўніцтва і накіроўваецца ў Маскву. Місію Палуты афіцыйна падтрымлівае старшыня Рэўваенсавету Заходняга фронту Аляксандр Чарвякоў

Але тут прыйшлося літаральна ламаць недавер і адкрытае ігнараванне прадстаўніка беларускіх нацыянальных сілаў. На працягу месяца – з 6 са-кавіка па 8 красавіка 1920 г. Палута дамагаецца разгляду беларускага пытання на ўзроўні ЦК РКП(б). Толькі дзякуючы ўласнай настойлівасці і энэргіі яна дабіваецца сустрэч з уплывововымі прадстаўнікамі бальшавіцкай вярхушкі: наркамам замежных спраў РСФСР Георгіем Чычэрыным і яго намеснікам Львом Караханам, з Аляксеем Прэабражэнскім – старшынёй агітацыйна-прапагандысцкага аддзела ЦК РКП(б) і з Мікалаем Крэсцінскім – земляком, ураджэнцам Магілёва, а цяпер – міністрам фінансаў бальшавіцкага ўраду. Асобае значэнне мела сустрэча з наркамам нацыянальнасцей Іосіфам Сталіным, чый голас у вырашэнні пытанняў савецкіх рэспублік меў найбольшую вагу.

Жывучы на кватэры Язэпа Дылы, пры яго падтрымцы і парадах, а таксама з дапамогай старэйшага аўтарытэта беларускага руху Алеся Бурбіса, Палута складае грунтоўны даклад аб палітычнай сітуацыі на Беларусі, у якім былі выкладзены падыходы БПСР да дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі. За подпісам “П.А. Яноўскай” гэты даклад быў перададзены членам ЦК РКП(б) і, як запэўнілі Палуту, разгледжаны на пасяджэнні палітбюро ЦК з удзелам Уладзіміра Леніна.

Аднак вышэйшае бальшавіцкае кіраўніцтва не



збіралася рабіць сур'ёзных саступак у беларускім пытанні. Спахапілася і кіраўніцтва ЛітБела, адчуўшы небяспеку страціць ролю адзінага прадстаўніка беларускіх інтарэсаў перад маскоўскім цэнтрам. У Маскву тэрмінова накіроўваецца тэлеграма за подпісам тагачаснага сакратара ЦК КПЛіБ Вільгельма Кнорына, у якой ранейшая ацэнка эсэраў як уплывовых саюзнікаў мяняецца на адваротную, а таксама раскрываюцца планы бальшавікоў адносна нацыянальнага руху і дзяржаўнасці Беларусі: "1. Партия белорусских социалистов-революционеров-интернационалистов состоит из небольшой группы (8–10 человек) белорусских интеллигентов... Группа эта во время польской власти пыталась связаться с массами, но до сих пор никакого успеха не имела и организаций на местах не имеет, считаться с нею как с политической партией и ее представительницей Бодуновой как с представительницей политической партии совершенно не приходится… Необходимо признать, что находящаяся ныне в Москве Бодунова, представляет только политическую фикцию и является членом организации, ставящей перед собой цели национальные…"[1].

Нягледзячы на моцны супрацiў, перамовы П. Бадуновай скончыліся падцверджаннем ваеннага саюзу бальшавікоў і беларускіх эсэраў. Да разгляду палітычных пытанняў было дамоўлена вярнуцца пасля поўнага вызвалення Беларусі. Гэта ў немалой ступені было дасягнута дзякуючы настойлівасці і прынцыповасці П. Бадуновай. Як паказалі наступныя падзеі, і сама яе асоба, і партыя, якую яна прадстаўляла, не засталіся незаўважанымі ў Маскве.

У маі 1920 г. нарада Прэзідыума Народнай Рады БНР і ўраду заслухала справаздачы міністра замежных спраў Яўгена Ладнова, наменнікаў старшыні Рады Палуты Бадуновай і Васіля Захаркі аб іх перамовах з дзяржавамі Антанты, Германіі і Расіі. Па інфармацыі П. Бадуновай нарада вынесла наступную пастанову: "1. Пакуль тэрыторыя Беларусі пад чужымі акупацы-




[1]НАРБ. Ф. 60, воп. 1, спр. 110, л. 65.



замяніць Раду па кампетэнцыі. Але пытанне аб легітымнасці калегіі так і засталося спрэчным. На месца прэм'ера калегія прызначыла А.Цвікевіча.

У зацяглым канфлікце паміж В. Ластоўскім і К. Дуж-Душэўскім з аднаго боку і іх апанентамі на чале з А. Цвікевічам з другога, П. Бадунова актыўна падтрымлівала першых, што было прадэманстравана на гданьскай канферэнцыі. У сваім дакладзе яна нагадала пра высокі аўтарытэт і заслугі перад нацыянальнай справай Ластоўскага і К. Дуж-Душэўскага, пераконвала, што выдаленне іх з кіруючых эміграцыйных структур паслабляе беларускі палітычны рух і змяншае ягоны прэстыж за мяжой. Віна за падрыў супрацоўніцтва з Літвой і раскол Ковенскага камітэта эсэраў П. Бадунова ўсклала на А. Цвікевіча, а стварэнне новага ураду БНР пад яго кіраўніцтвам паставіла пад сумніў[1].

Падтрымка былога прэм'ера становіцца галоўным накірункам дзейнасці П. Бадуновай на эміграцыі. В. Захарка вымушаны быў прызнаць: "Бадунова страшэнна дапамагла ўмацавацца Ластоўскаму"[2].

Пасля гданьскай канферэнцыі заставацца ў Польшчы было ўжо немагчыма. П. Бадуновай прыйшлося вырашаць цяжкае для яе пытанне, куды накіравацца далей. Яе безумоўна вабіла Прага, дзе да гэтага часу, дзякуючы палітычнай і фінансавай падтрымцы Чэхаславацкага ўраду, сфарміраваўся значны беларускі асяродак, знаходзіліся не толькі бліжэйшыя паплечнікі па партыі але і чалавек, якога яна лічыла па-ранейшаму блізкім – Тамаш Грыб. Знаходзячыся яшчэ пад наглядам паліцыі ў Польшчы, Бадунова раілася з ім аб намеры прыехаць у Прагу. Тамаш, відаць, не лічыў гэты план лепшым. У лісце да паэта і сябра Уладзіміра Жылкі ад 6 чэрвеня 1923 г. ён паведамляў аб жаданні пасляць Я. Мамоньку ў ЗША, у Чыкага, дзе ўтварылася групӑўка эсэраў і вымалёўвалася перспектыва выдавецкай дзейнасці. Ён пісаў: "ёсць яшчэ дум-




[1]БДАМЛіМ. Ф.3, воп. 1, спр. 241, л. 52–52-адв.
[2]Ул. Калеснік. Пражскі эпісталярый // Полымя.1990. – № 10. – С. 225.

скай кнігарні, а таксама кватэры Б. Тарашкевіча, С. Рак-Міхайлоўскага, Я. Лагіновіча, Л. Радзевіча, дырэктара і настаўнікаў гімназіі. «Па ўсіх беларускіх установах у Вільні паліцыя шукала нейкага Чарвякова і вядомую беларускую дзеячку П. Бадунову». «Паліцыя ўрывалася ў прыватныя памешканні беларускіх дзеячоў, не прад'яўляючы ордэраў, не тлумачачы прычыны свайго прыходу, павяраючы асабістыя дакумэнты. Пры гэтым была парушана нятыкальнасць памешканняў паслоў (дэпутатаў Польскага сейму – В.Л.) Б. Тарашкевіча і С. Рак-Міхайлоўскага»[1]. Па ацэнцы самой Палуты, яна літаральна выслізнула з рук дэфензівы: «нейкім цудам лічу я тое, што яны далі мне пашпорт, проста вышэйшая сіла дапамагла мне выратавацца»[2].

У той момант, калі паліцыя вяла пошукі ў Вільні, П. Бадунова ўжо знаходзілася ў Гданьску, дзе ад імя сваёй партыі выступіла з дакладам, сэнс і пафас якога быў накіраваны на абарону бліжэйшага паплечніка па партыі В. Ластоўскага. Справа заключалася ў тым, што пад час ізаляцыі П. Бадуновай польскімі ўладамі ў Коўна адбылася падзея, якая патрабавала неадкладнага ўмяшальніцтва – В. Ластоўскі быў адпраўлены ў адстаўку з паста старшыні Кабінета міністраў БНР.

Адстаўка прэм'ера стала завяршэннем апазіцыйных настрояў, якія нарасталі супраць В. Ластоўскага ў эміграцыйных колах, а найперш у Народнай Радзе і яе міністэрстве. Да абвінавачанняў у дыпламатычных памылках дадаўся матыў незадаволеннасці агульнай лініяй паводзін прэм'ера ў беларуска-літоўскіх адносінах.

У красавіку 1923 г. пасля чарговага канфлікту ўнутры кіраўніцтва БНР В. Ластоўскі падаў у адстаўку. Адпаведна рэгламенту, прыняць яе і прызначыць новага прэм'ера мог пленум Рады, правядзенне якога было практычна не магчыма з-за раскіданасці членаў Рады па розных краінах. Каб вырашыць пытанне, была створана «Дзяржаўная калегія», якая мусіла




[1] *Вольны сьцяг. – 1923. – 26 жніўня.*
[2] *Архівы БНР. – Т.1. – Кн. II. С. 1442.*



ямі, Нарада выказваецца проці ўсякіх спроб навязаць Беларускаму народу федэрацыю з усходнімі або заходнімі акупантамі. 2. З Ўрадам Р.С.Ф.С.Р. вясці перагаворы, але толькі на грунце прызнання поўнай дзяржаўнай незалежнасці і суверэннасці Б.Н.Р. у этнаграфічных межах"[1].

Такім чынам, маскоўская місія П. Бадуновай была ацэнена партыяй як плённая. Напэўна, яна падмацавала і спадзяванні самой Палуты на магчымасць кааліцыі з бальшавікамі[2]. У беларускім руху аўтарытэт і роля П. Бадуновай на гэты час выраслі максімальна.

У адпаведнасці з прынятым Народнай Радай рашэннем, у чэрвені 1920 г. павінны былі працягнуцца міжнародныя перамовы. Я. Ладноў выехаў у Парыж, Палута рыхтавалася ўзначаліць новую дэлегацыю да Масквы. Аднак напружаная праца і сакавіцкі пераход Бярэзіны не прайшлі незаўважна для здароўя. Для аднаўлення сілаў яна вымушана была пасяліцца ў курортным мястэчку Кемэрн (зараз – Кэмеры ў Юрмале) на Рыжскім узмор'і.

Паўза адпачынку адсунулі палітычныя справы на другі план і далі магчымасць засяродзіцца на сабе, асэнсаваць уласныя душэўныя перажыванні – драму незбыўнага кахання, што пераследвала яе "як цяжкая, безумная туга" з моманту першай сустрэчы Палуты з Тамашом Грыбам.

Іх знаёмства адбылося ў восень 1917 г. у час падрыхтоўкі Усебеларус-кага з'езда. І праз тры гады момант сустрэчы прыгадваўся з усёй дакладнасцю: «Мы спатkаліся з ім на адном з беларускіх з'ездаў воінаў Заходняга фронту. З'езд ужо скончыўся. Засядаў камітэт. Як цяпер памятаю, у зале быўшага губэрнатарскага дому. Усё зало было залітае сьветам. Камітэт засядаў у углу, а ззаді чамусь хадзілі, гутарылі. Ось к сталу, узяўшы слова у старшыні, падыйшоў малады ваенны, судзючы па нашыўкам вольнаапрэдзеляюшчыйся. Ен рабіў нейкую маленькую заяву, нейкі даклад заняўшы




[1] *Архівы БНР. – Т. 1. – Кн. І. – С. 767.*
[2] *Там сама. С. 809.*

дужа мала часу.

Я, затомленная бязупыннымі каждоднеўнымі сходамі... ужо пачці не бачыла і не глядзела нават на тых, хто гаворыць. А толькі мозгам выбірала галоўнае із таго, што казаў аратар.

Калі пачаў гаварыць Тамаш (тады я яшчэ ня ведала што яго так завуць і яшчэ больш ня ведала, што гэта імя для мяне будзе такім дарагім ў будучыне), я неспадзеўку падняла вочы і глянула на яго. Длінныя каштанавыя валасы, бакі, бледны твар і рэзкай формы схадзячыяся над носам бровы рабілі адразу яго заметным сярод другіх. Самае сільнае ўражанне зрабілі на мяне яго вочы. Пачці неземная дабрата, ціхая грустная насмешка над суетой земной, так і глядзелі з глубіны не то карых, не то шэрых вялікіх вачэй яго.

Адразу нешта стукнула мне ў сэрца: о, якія вочы у гэтага чалавека. Якая павінна быць сьвятая і праўдзівая душа – вось каго можна палюбіць да канца" [1].

Ці было пачуццё ўзаемным – цяжка меркаваць, але Палута сапраўды "палюбіла да канца". Лёс назаўсёды паяднаў яе і Т. Грыба як аднадумцаў і блізкіх паплечнікаў. Але да Тамаша хутка прыйшло больш моцнае пачуццё. У 1919 г. ён пабраўся з маладой удзельніцай беларускага руху і вядомай прыгажуняй Паўлінай Мядзёлкай, але і з ёй хутка настала доўгае растанне. Для Палуты ж каханне засталося нязбыўным на ўсё жыццё, ператварыўшы яго ў суцэльную пакутлівую барацьбу з уласнай чалавечай і жаночай сутнасцю. Ратаванне шукалася ў грамадскай чыннасці, служэнні народнаму дабру: "Трэба жыць, кажа розум. Трэба жыць, бо ты патрэбна яшчэ твайму беднаму страдаюшчаму народу... Жыві для другіх, любі ідэю больш, чым сябе"[2].

Таму і ў час, праведзены на адпачынку ў Кемэрне, нягледзячы на стан здароўя, П. Бадунова не перарывала палітычнай работы: амаль штодня яе наведвалі паплечнікі, вялася падрыхтоўка дакументаў, ішла пе-




[1]Архівы БНР. – Т. 1. – Кн. 1. – С.802
[2]Там сама. – С. 800.



Пашкевіч. Ці не быў зварот да гэтага вобразу нагодай дзеля асэнсавання ўласнага лёсу? У першым жа пасля вызвалення лісце Палута паведамляе В. Ластоўскаму: «З Берліна перашлю да Вас сваю драму для прагляду, завецца яна «Цётка». Я хочу даць у ёй характ[ар] эпохі «Нашае долі», а галоўнае асьвятліць асобу «Цёткі». Вельмі прашу, каб Вы перадалі яе на прачытанне Кейрысу*, каб Вы і ён напісалі мне у чым і як я памыляюся і што і дзе трэба дадаць, альбо замяніць» [1].

Ңейдзе ў жніўні П. Бадунову вызваляюць з патрабаваннем неадкладна пакінуць тэрыторыю Польшчы, выдаюць польскі пашпарт для выезду. Але Палута зусім не збіралася адразу выканаць патрабаванне ўладаў. Праз Вільню яна накіроўваецца ў Гданьск, дзе збіралася канферэнцыя беларускіх сацыялістычных партый, адным з арганізатараў якой з'яўляецца БПСР.

У Вільні П. Бадунова праводзіць сустрэчы і выступае перад дзеячамі нацыянальнага руху розных арыентацый, у тым ліку і прадстаўнікамі Віленскага Беларускага камітэта, які эсэры трактавалі як «паланафільскі» і лічылі сваім галоўным апанентам. Адбылася таксама сустрэча з актывістамі партыі, а на гэты момант – стваральнікамі напаўпадпольнай баявой «Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі» і будучымі членамі ЦК Камуністычнай партыі Заходняй беларусі Леапольдам Радзевічам і Язэпам Лагіновічам [2].

Кантакты П. Бадуновай з заходнебеларускімі дзеячамі напалохалі польскую паліцыю, хоць звесткі аб іх былі атрыманы з вялікім спазненнем. Віленская эсэраўская газета «Вольны сьцяг», якую рэдагаваў якраз Я. Лагіновіч, паведамляла, што больш чым праз тыдзень пасля ад'езду Бадуновай з Вільні ў ноч з 24 на 25 жніўня былі абшуканы памяшканні Беларускай школьнай рады, Сакратарыята Беларускага Пасольскага Клуба, Беларускага Грамадзянскага Сабрання, Беларускай гімназіі і вучнеўскага інтэрната, Белару-




* муж Элаізы Пашкевіч.
[1]Архівы БНР. – Т.1. – Кн. II. – С. 1443.
[2]БДАМЛіМ. Ф. 3, воп. 3, спр. 73, л. 1.

рых колах лічылі, што яна паслана савецкім кіраўніцтвам, каб арганізаваць зварот беларускіх дзеячоў з замежжа у Беларусь. На думку эмігрантаў, з прыездам Палуты трэба было чакаць вострай палемікі паміж яе паплечнікамі па партыі і кіруючымі структурам БНР, якія па-ранейшаму дэкларавалі змаганне за «Незалежную і Непадзельную Беларусь». Дадатковую занепакоеннасць выклікаў стан здароўя Бадуновай. У канцы студзеня 1923 г. Кастусь Езавітаў з латвійскага Двінска адпраўляе В. Ластоўскаму ў Коўна паштоўку, эмацыянальны накал якой яскрава перадае рэакцыю на прыезд П. Бадуновай: «Прыехала Палута! Яна ў Вільні. Звярнулася да мяне па грашовую дапамогу. Колькі мог я, я ўжо выслаў. Дапамажыце і Вы! Яна Хворая! Збіраецца ў Прагу!»[1].

Аднак спробы П. Бадуновай ўключыцца ў партыйныя і палітычныя справы ў Заходняй Беларусі былі перарваны. Пасля амаль месяца нелегальнага знаходжання ў Вільні яна была арыштавана польскай жандармерыяй і разам з іншымі падазронымі персонамі перавезена бліжэй да беларускай мяжы для высвятленне асобы і «з прэдстаўленнем аб высяленні ў СССР». У Навагрудскай дэфензіве было зроблена фота з дошкай на грудзях і складзена даведка пра асабістыя прыкметы: “рост 163, шатэнка, вочы блакітныя. Размаўляе па-руску і па-беларуску”[2]. Хуткай высылкі не атрымалася, бо расследаванне зацягнулася больш чым на паўгода. Напрацягу гэтага часу П. Бадунова, па яе ўспамінах, пабывала у турмах «ад Нясвіжа да Закапан», а таксама некалькі месяцаў пражыла на хутары пад Нясвіжам пад наглядам паліцыі[3].

Зноў атрымаўшы вымушаную паўзу, П. Бадунова імкнецца выкарыстаць яе для звароту да сваёй спрадвечнай і няздзейсненай мары – літаратурнай дзейнасці. Гераіняй яе творчых вышукаў становіцца сімвал беларускага вызвольнага руху, жанчына і паэтка, Элаіза




[1]*Архівы БНР. – Т. 1. – Кн. II. – С. 1387, 1381.*
[2]*Архівы БНР. – Т.1. – Кн. II. С. 1442; Архіў УКДБ па Гомельскай вобл. Спр.8482.*
[3]*Ул. Калеснік. Пражскі эпісталярый // Полымя. 1990. – № 10. – С. 207.*



рапіска. Я. Ладноў паведамляў аб тым, што дасланы ў Парыж ліст Палуты аб стаўленні бальшавікоў да беларускага пытання зрабіў ўражанне на французкі бок, прапаноўваў ёй прыехаць ў Францыю для ўдзелу ў перамовах[1].

У жніўні яна зноў збіраецца ў Маскву. Ад імя ўрада БНР на імя народнага камісара замежных спраў Г. Чычэрына адсылаецца ліст з паведамленнем аб далучэнні да дэлегацыі па перамовах П. Бадуновай і Я. Белевіча, і з просьбай забяспечыць іх дыпламатычную недатыкальнасць. Але паездка не адбылася з-за разрыву саміх перамоваў.

Летам 1920 г. наспяваў новы крытычны паварот у эсэраўскай барацьбе за беларускую дзяржаўнасць. Ілюзіі на парытэтнасць у саюзе з бальшавікамі перажывалі свой апошні час.

Пасля вызвалення Мінска ў ліпені 1920 г. існаванне ЛітБелу стала бессэнсоўным і ў Маскве было вырашана аднавіць беларускую рэспубліку. Эсэры пацвердзілі бальшавікам сваю гатоўнасць да ўзаемнага супрацоўніцтва, прынялі ўдзел у выпрацоўцы “Дэкларацыі аб абвяшчэнні незалежнасці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь”. Аднак іх чаканні аказаліся перабольшанымі. Патрабаванні прадстаўнікоў БПСР склікаць Усебеларускі Працоўны кангрэс для вырашэння пытання аб дзяржаўным уладкаванні Беларусі, забяспечыць поўны яе суверэнітэт ад Савецкай Расіі і тэрытарыяльную непаддзельнасць, стварыць кааліцыйны ўрад і нацыянальную армію прыняты не былі. Абвяшчэнне ж ва ўмовах савецка-польскай вайны тэрыторыі рэспублікі ў межах шасці паветаў Мінскай губерніі выклікала абурэнне эсэраў. Яны адмовіліся падпісаць дакумент і ўвайсці ў склад савецкага ўраду Беларусі.

Гэта стала першым крокам да адкрытага супрацьстаяння. Другім з’явілася падпісанне ў кастрычніку 1920 г. прэлімінарнага міру з Польшчай на ўмове передачы апошняй Заходняй Беларусі. На гэта эсэ-




[1]*Архівы БНР. – Т. 1. – Кн. 1. – С. 813, 818.*

ры адрэагавалі скліканнем у Рызе, дзе ішлі савецка-польскія перамовы, канферэнцыі, у якой, акрамя іх, прынялі ўдзел таксама сацыял-дэмакраты і сацыялісты-федэралісты. Нядаўнія апаненты аднадушна запатрабавалі дабівацца перагляду ўмоў міру і ўсталявання дзяржаўных межаў адпаведна этнагарафічнай тэрыторыі беларусаў, допуску на перамовы ў Рыгу дэлегацыі БНР. П. Бадунова, якая гэтым часам яшчэ заставалася ў Рызе, пэўна, павінна была прыняць ўдзел у канферэнцыі, хаця прамых сведчанняў аб гэтым няма.

Між тым, рашэнні рыжскай канферэнцыі не знялі пытання аб адносінах да новаабвешчанай БССР і для самой П. Бадуновай і для яе аднапартыйцаў. Адмова эсэраў ад удзелу ў дэклараванні і кіруючых структурах рэспублікі азначалі зняцце адказнасці за несуверэннасць гэтага варыянту беларускай дзяржаўнасці. Пры гэтым Савецкая Беларусь заставалася адзіным і рэальным стварэннем, ігнараванне якога было немагчымым для нацыянальнага руху.

Карціну блыталі і звесткі з радзімы. Яшчэ ў пачатку верасня ў Рыгу з Мінска прыехаў Я. Мамонька, які засведчыў, што "беларускія дзеячы вядуць цяперака працу ў культурна-прасветных нацыянальных установах і нацыянальных каапeратывах, … на адбыўшыхся вучыцельскіх з'ездах усюды вынесены рэзалюцыі, патрабуючыя абавязковасці ва ўсіх школах беларускай мовы"[1]. Больш за тое, там наладжана адкрытае выданне эсэраўскай газеты «Змаганне», пад кантролем БПСР пачаў дзейнічаць Работніцкі клуб, некаторыя з актывістаў партыі занялі адказныя пасады ў сістэме адукацыі і культуры.

Не вядома, ці абмяркоўвалася і была зацвержана афіцыйна, але ж de facto БПСР прыняла тактыку дзеяння ў двух накірунках. Для захавання дзяржаўна-ўрадавых структур, у тым ліку і для пошуку міжнароднай падтрымкі ідэі незалежнай і непадзельнай Беларусі было вырашана ні ў якім выпадку не здава-



[1] *Архівы БНР.– Т. 1. – Кн.1. – С. 864.*



Заўвага генія беларускай літаратуры аб тым, што лідэрка эсэраў доўга ў БССР не затрымаецца, аказалася прарочай. Ізаляванасць ад палітычнай дзейнасці перажывалася П. Бадуновай вельмі балюча. Тым больш, што па-за межамі Беларусі эсэры разгарнулі актыўную міжнародную барацьбу за нацыянальныя інтэрэсы. Але ў гэты момант у іх структурах за мяжой наспяваў востры крызіс. Камітэт Заграні̇чных груп БПСР у Коўне, які ў папярэднія два гады захоўваў лідэрства на эміграцыі, пачаў губляць актыўнасць і саступаць пазіцыі. Прычын тут было некалькі. Па-першае, частка найбольш актыўных сяброў камітэта, як Т. Грыб і Я. Мамонька, пакінулі Коўна і перабраліся ў Прагу. Па-другое, выбухнуў востры канфлікт паміж двума прызнанымі аўтарытэтамі не толькі партыі, але і ўсяго нацыянальнага руху – Аляксандрам Цвікевічам і Вацлавам Ластоўскім. Звадка набыла шырокі рэзананс, абмяркоўвалася як эсэрамі, так і іх апанентамі, а таксама не заставалася па-за ўвагай бальшавіцкіх колаў.

Можна меркаваць аб жаданні П. Бадуновай не толькі далучыцца да адкрытай палітыкі і апынуцца сярод паплечнікаў, але і паўплываць на становішча ў эсэраўскім эміграцыйным асяродку.

Па сведчанню Марыі Бадуновай, Палута паспрабавала легальна выехаць з БССР за мяжу, але не атрымала на гэта дазволу. Таму амаль пад навагоднюю ноч 1923 г. яна наважылася без дакументаў перайсці польскую мяжу і накіравалася ў Вільню, дзе знаходзіліся кіруючыя структуры беларускага культурнага і палітычнага руху ў Заходняй Беларусі, у тым ліку і Віленскі камітэт БПСР.

З'яўленне П. Бадуновай за мяжой аказалася нечаканай для беларускіх дзеячоў і выклікала пэўнае напружанне ў іх шэрагах. За ёй ужо паспела замацавацца рэпутацыя «прасавецкасці» і ў некато-



гэтым часам у шэрагах БПСР з’явіліся настроі на самаліквідацыю, да чаго актыўна падштурхоўвалі бальшавіцка-чэкісцкія структуры. У дыскусію неўзабаве рашуча ўмяшалася П. Бадунова. Восенню 1921 г. яна наведала Слуцк, дзе знаходзілася адна з буйнейшых эсэраўскіх арганізацый. На сходах і сустрэчах яна пераконвала таварышаў не ліквідоўваць партыю, але заняцца культурніцкай працай, прыпыніўшы палітычную актыўнасць[1]. Фактычна прапаноўваўся зварот да вядомай тактыкі Беларускай сацыялістычнай грамады пад час палітычнай рэакцыі 1906–1913 гг., калі актыўнасць нацыянальнага руху засяродзілася вакол “Нашай нівы”.

Сама Палута імкнулася паказаць прыклад гэтакай тактыкі. Па вяртанні ў Мінск яна завязвае адносіны з творчай інтэлігенцыяй, цікавіцца пытаннямі беларускага школьніцтва і тэатра, турбуецца аб умовах працы кампазітара Уладзіміра Тэраўскага. Нарэшце, у альманаху “Адраджэнне” яна надрукавала нарысы-ўспаміны аб дзеячах беларускага руху – А. Лявіцкім (Ядвігіне Ш.) і А. Бурбісу.

Аўтарытэт П. Бадуновай і яе заслугі ў дзяржаўным самавызначэнні прызнаны беларускай грамадскасцю, а яе імя становіцца амаль легендарным. Яе партрэт ствараe Язэп Драздовіч, а Я. Купала прыгадвае яе ў знакамітай п’есе “Тутэйшыя”, што выйшла ў свет у 1922 г. Апісваючы падзеі другога абвяшчэння БССР летам 1920 г., ён перадае наступны дыялог:

> “*Мікіта.* ... дык у вас заводзіцца нейкая, меджду
> Протчым, Беларуская Рэспубліка. Ужо нават едзе
> і старшыня Беларускага Рэўкому Чарвякоў –
> толькі затрымаўся нейдзе за Менскам на папаску.
> *Аленка.* А я чула, што і Цётка Бадунова
> таксама едзе на белай кабыле з Смаленску.
> *Мікіта.* Ну, яна, меджду протчым, эсэр-беларус
> і ў рахунак не ідзе: доўга тут не затрымаецца…”



[1]*Архіў УКДБ па Гомельскай вобл. Спр. 8482, л. 23*



ць мандатаў БНР і захаваць Народную Раду, а таксама ўрад Вацлава Ластоўскага за мяжой. У той жа час было прызнана неабходным максімальна сканцэнтраваць нацыянальныя сілы ў самой Беларусі з тым, каб забяспечыць уплыў на напрамак культурнага і, па магчымасці, палітычнага развіцця рэспублікі. У эсэраў усё яшчэ заставалася спадзяванне ў адкрытай палітычнай барацьбе захаваць і пашырыць свой уплыў, разлічваючы на падтрымку сялянства і развіццё нацыянальнай свядомасці насельніцтва.

Такім чынам, партыйныя сілы, уключаючы сяброў Рады і ўраду, павінны былі падзяліцца для ад’езду на радзіму. Для П.Бадуновай рашэнне было прадвызначана.

6 лістапада 1920 г. газета “Змаганне” паведаміла аб вяртанні ў Мінск “з эвакуацыі” членаў ЦК партыі Я. Трафімава і Бердніка, а таксама аб хуткім прыездзе Я. Бялькевіча і П. Бадуновай. А ўжо праз 10 дзен, 16 лістапада, газета надрукавала першы яе артыкул, што было сведчаннем прысутнасці Палуты на радзіме.

Першым крокам П. Бадуновай па вяртанні стала спроба аднавіць свой удзел у беларускім школьніцтве. У архівах захаваліся некалькі дакументаў, якія дазваляюць рэканструяваць няпростыя захады ў гэтым накірунку. Ужо 16 лістапада, гэта значыць у адзін з першых дзён свайго вяртання, Палута падае ў беларускі аддзел Камісарыяту асветы Беларусі заяву прызначыць яе на месца губернскага інструктара па пазашкольнай альбо школьнай асвеце. Кіраўніцтва Наркампросу не наважылася даць кіроўную пасаду вядомай эсэраўскай дзеячцы. Без тлумачэння матываў адмовы, загадчык беларускага аддзела наклаў на заяве рэзалюцыю: “Залічыць з 15.11.20. Назначыць на дашкольныя курсы”. Яшчэ адна рэзалюцыя ад 18.11. дадавала: “Назначить шк[ольной] раб[отницей] в одну из белорусских школ гор. Минска”. Але толькі праз месяц, 15 снежня, загадчык дашкольных курсаў пры Наркамасвеце БССР і сама Палута атрымалі паведамленні аб прызначэнні яе лектарам на курсы[1].



[1]*Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці (ДА Мінскай вобл.). Ф. 42, воп.1, спр. 59, л. 35, 37, 38, 39.*

Лектарскую работу на настаўніцкіх курсах Палута выконвала да сярэдзіны сакавіка 1921 г., магчыма, да моманту свайго арышту, аб чым сведчыць дата апошняга яе пасведчання.

Акрамя далучэння да школьнай справы, П. Бадунова актыўна друкуецца на старонках «Змагання». Яе артыкулы «Радавы строй і яго значэнне для Беларусі», «Што лепей?», «Беларусь як гасударства» сведчылі аб чынным ўдзеле ў выпрацоўцы і прапагандзе стратэгіі і тактыкі эсэраў у гэты адказны момант. Яны характарызуюць таксама эвалюцыю ўласных палітычных поглядаў аўтара.

Асноўнай тэмай публіцыстыкі П. Бадуновай стала абгрунтаванне савецкай формы дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі пры крытыцы яе бальшавіцкага варыянту. Партыя беларускіх эсэраў належала да той лева-радыкальнай плыні міжнароднага сацыялістычнага руху, якая прызнавала савецкую форму ўлады як адзіную паслядоўна народную. З гэтай пазіцыі толькі савецкая ўлада магла забяспечыць беларускаму сялянству і рабочым поўную палітычную свабоду, сацыялізацыю зямлі, развіццё прамысловасці, культурны рост працоўных. Ва ўмовах Беларусі, на думку П. Бадуновай, толькі савецкая ўлада здольна была вырашыць галоўныя нацыянальна-палітычныя праблемы – дабіцца тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі, гарантаваць яе знешнюю бяспеку праз стварэнне уласнага Чырвонага войска, увесці Беларускую рэспубліку «ў саюз як роўны з роўнымі з суседнімі сацыялістычнымі рэспублікамі»[1].

Падыходы, выкладзеныя Бадуновай на старонках «Змагання», леглі ў аснову дыскусіі і рашэнняў трэцяй канферэнцыі БПСР, што прайшла ў Мінску 25–29 снежня 1920 г. Быў прыняты курс на прызнанне БССР як формы беларускай дзяржаўнасці, з перспектывай яе трансфармацыі ў суверэнную нацыянальную дзяржаву. У выніку вострай палемікі якраз П. Бадунова змагла пераадолець моцныя антыбальшавіцкія на-




[1]Змаганне. – № 6. – 28.11.1920.

тага патрабавання далучаецца і Палітычны Чырвоны Крыж, паведамляючы ў прэзідыум ЧК, што Бадунова знаходзіцца ў маскоўскай турэмнай бальніцы на мяжы смерці[1].

Урэшце супольныя намаганні дзяржаўных і грамадскіх структур, а таксама барацьба самой зняволенай здолелі перамагчы тагачасную рэпрэсіўную машыну – 16 жніўня 1921 г. спецыяльнай пастановай Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту РСФСР П. Бадунова была вызвалена. За паўгода зняволення стан яе здароўя пагоршыўся настолькі, што папярэджанне А. Чарвякова аб смерці было вельмі блізкім да рэальнасці. Спахапіўшыся, самі улады тэрмінова ўладкоўваюць яе ў падмаскоўны санаторый. На Беларусі таксама рыхтаваліся да вызвалення П. Бадуновай, але вельмі своеасабліва: перад выхадам яе з вязніцы ў Мінску была праведзена новая серыя "прафілактычных" арыштаў эсэраўскіх дзеячоў, якіх выпусцілі праз тыдзень з новымі папярэджаннямі аб забароне апазіцыйнай дзейнасці.

Звесткі аб Палуце пасля яе вызвалення вельмі фрагментарныя, але яны сведчаць, што яна зусім не склала рукі. Сакрэтны супрацоўнік ЧК нейкі Васюцін, "внедрённый" ў шэрагі БПСР пастаянна паведамляў ўвосень 1921 г. аб рэгулярных падпольных сустрэчах эсэраўскіх груп у Беларучскай і Астрашыцкай валасцях Мінскага павету, на якія разам з Трафімавым і Міхайлоўскім прыязджала Бадунова. На сустрэчах абмяркоўвалася стварэнне антысавецкай партызанскай барацьбы, вяліся перамовы з прадстаўнікамі аддзелаў "Зялёнага дуба" – шматлікіх сялянскіх атрадаў, якімі кіравалі незалежныя "атаманы"[2].

Ёсць падставы меркаваць, што менавіта яна прычынілася да выпрацоўкі новай тактыкі і прыклала намаганні да захавання партыйных арганізацый ва ўмовах блакіравання палітычнай дзейнасці эсэраў. Па сведчанні члена ЦК БПСР Андрэя Бараноўскага,




[1]Архіў Міністэрства ўнутраных спраў РФ. Ф. 8419, адз. зах. 189, л. 108.
[2]НАРБ. Ф.194, воп. 4, спр. 3, л. 40, 71, 83.

ленне Бадуновай. Хадайніцтва аб вызваленні сястры на імя У. Леніна дасылае праз Палітычны Чырвоны Крыж Марыя Бадунова. Праз тры месяцы, 15 ліпеня, Маскоўскі камітэт Чырвонага Крыжа зноў звяртаецца ў ВЧК з дакладам аб крытычным стане здароўя зняволенай[1].

Настроі ў абарону Бадуновай вымусілі да больш настойлівых захадаў і кіраўніцтва БССР. Ад імя ўраду падае свой голас А. Чарвякоў – чалавек, чыё недалёкае мінулае было звязана са змаганнем за стварэнне Беларускай рэспублікі, хто мог унутрана спачуваць поглядам і лёсу актывісткі нацыянальнага руху. Але свядома альбо з тактычных меркаванняў А.Чарвякоў прыводзіць даволі цынічныя аргументы на карысць вызвалення Палуты. Ен звяртаецца да Паўнамоцнага прадстаўніка Беларусі ў РСФСР Аляксандра Мароза (дарэчы, паплечніка П. Бадуновай па школьніцтве ў 1918 г.): “У ліку арыштаваных у Мінску беларускіх эсэраў была П. Бадунова, якая была пераслана ў Маскву і якая ў цяперашні час утрымліваецца ў Навінскай турме і знаходзіцца ў скрайне хваравітым стане. Лічу, што ўтрыманне яе пад вартай бессэнсоўна і яна падлягае вызваленню. Самае вялікае, што можна выкарыстаць адносна Бадуновай – гэта забарона (часовая) вяртання ў Беларусь, але і гэта пры поўнай ліквідацыі бел. с.-р. наўрад ці дасягне мэты, ствараючы толькі вакол яе імя арэал пакутніцтва. Прашу Вас таму ўвайсці ў хадайніцтва ў ВЧК аб вызваленні П. Бадуновай і настойваць на гэтым вызваленні. Бадунова мае шмат заслуг перад рабочымі і сялянамі Беларусі”[2].

Выконваючы даручэнне, А. Мароз звяртаецца да намесніка старшыні ВЧК Іосіфа Уншліхта ад імя ўраду БССР з патрабаваннем перагляду справы і вызвалення П. Бадуновай. У дадатак ён паведамляе ў Народны Камісарыят Замежных Спраў РСФСР, што зняволеная ўжо шосты дзень як ябвясціла новую галадоўку і знаходзіцца ў скрайне цяжкім стане[3]. Да гэ-




[1] *Архіў МУУС. Ф. 8419, адз. зах. 189, л. 103,103-адв.*
[2] *БДА. Ф. 15, воп. 1, спр. 24, л. 93,93-адв.*
[3] *Там сама. л. 84–86.*



строі дэлегатаў канферэнцыі.

Папулярнасць, аўтарытэт і перакананасць П. Бадуновай дазвалялі ёй заставацца прызнаным лідэрам партыі, дасягаць перамогі не толькі над апанентамі ўнутры БПСР, але і над палітычнымі праціўнікамі. У канцы 1920 г. прайшлі выбары ў мясцовыя саветы. Ва ўмовах захавання магчымасцей адкрытай барацьбы эсэры эфектыўна скарысталі наступальную тактыку. Іх аўтарытэт і блізкія сялянам патрабаванні дазвалялі перамагчы супернікаў. П. Бадунова таксама актыўна ўдзельнічае ў выбарчай кампаніі. Нават бальшавіцкія газеты адзначалі, што на тых сялянскіх сходах, дзе яна выступала разам з прадстаўнікамі КП(б)Б, пасля яе прамоў дэлегатамі заўсёды абіралі эсэраў.

Адзін з такіх выпадкаў засведчыў пратакол перадвыбарчага схода Беларускай воласці*. Тут, нягледзячы на супраціў “прадстаўніка Цэнтра” Лук’янчыка і мясцовага валаснога рэўкама Згіроўскага, П. Бадунова ўзяла слова і пасля яе прамовы з’езд не толькі абраў дэлегатам члена ЦК БПСР Я. Трафімава, але і прыняў рэзалюцыю, якая цалкам падтрымлівала эсэраўскія патрабаванні: “Белорусская Советская Республика должна быть объединенной в своих этнографических границах, что на мирные переговоры должна быть послана белорусская делегация для защиты интересов Белорусской республики. Необходимо создание белорусской армии”[1].

Дакладна па тым жа сцэнарыі прайшоў сялянскі сход Астрашыцка-Гарадзецкай воласці, які абраў дэлегатам на з’езд Мінскага павета саму П. Бадунову[2].

З наступленнем 1921 г. перамоўны працэс у Рызе падыходзіў да завяршэння. Гатоўнасці бальшавіцкага кіраўніцтва аддаць Заходнюю Беларусь Польшчы перашкаджаў толькі супраціў беларускіх нацыянальных партый, сярод якіх эсэры з’яўляліся найбольш уплывовай і наступальнай сілай. Гэта ўсведамлялася як у Мінску, так і ў Маскве. Таму дзейнасць БПСР




* *Сёння – станцыя Беларусь пад Мінскам.*
[1] *ДА Мінскай вобл. Ф. 37, воп. 1, спр. 2, л.3–10.*
[2] *Змаганне. – № 9. – 24.11.1920.*

была пастаўлена пад пільны чэкісцкі кантроль. У лютым 1921 г. ЧК Беларусі прадставіў у Цэнтральнае Бюро КП(б)Б спецыяльны даклад, у якім паведамлялася, "што партыя беларускіх эсэраў вядзе яскравую контррэвалюцыйную палітыку, што дапусціць надалей яе легальнае існаванне – гэта азначала б праявіць палітычную недальнабачнасць, таму што такое існаванне пагражае для Рэспублікі бедствамі"[1].

У ноч з 16 на 17 лютага 1921 г. ЧК правяла акцыю «ліквідацыі БПСР», якая ахапіла амаль усю ўсходнюю Беларусь. Былі арыштаваны 860 сяброў партыі, у т. л. поўны склад ЦК і Мінскага камітэта. Адначасова зачыняюцца газета "Змаганне" і праэсэраўскі Рабочы клуб у Мінску.

ЧК дакладала, што канфіскаваныя пры арыштах дакументы сведчылі супраць П. Бадуновай асабіста. Нягледзячы на знешнюю лаяльнасць да кампартыі, менавіта яна ўзначальвала колькасна большую плынь партыі, якая настойвала на размежаванні з бальшавікамі, праз яе падтрымліваліся цесныя сувязі з расійскімі левымі эсэрамі, падпольнымі арганізацыямі ў Віцебскай, Смаленскай і Гомельскай губернях, за дэмаркацыйнай лініяй савецка-польскага фронту[2].

Рэпрэсіўныя захады супраць арыштаваных эсэраў былі здзейснены дыферэнцыявана. Асноўную іх большасць вызвалілі пасля двух тыдняў зняволення з папярэджаннем аб небяспечнасці вядзення антысавецкай дзейнасці.

Лідэраў партыі – П. Бадунову і Я. Мамоньку – запатрабавала ў Маскву Усерасійская ЧК. Гэта справа разглядалася на самым высокім узроўні – на пасяджэнні Бюро КП(б)Б. Большасць удзельнікаў абмеркавання выказваліся за тое, каб пакінуць лідэраў БПСР у Мінску. З дакументаў бачна, што беларускае бальшавіцка-чэкісцкае кіраўніцтва спрабавала адстаяць пэўны "суверэнітэт" ад Масквы ў барацьбе з уласнай апазіцыяй. У выступленні наркома ўнутраных спраў і




[1]НАРБ. Ф. 4, воп. 1, спр. 118. л. 28.
[2]Там сама.



члена калегіі ЧК БССР Якава Мэртэнса быў агучаны самастойны план: "Прымаючы да ўвагі, што, пакідаючы Бадунову і Мамоньку ў Мінску можна больш удала працягваць агентурную работу, і што арганізацыя (у адносінах масы членаў) б.с.р. разладжана апошнімі падзеямі (арыштамі), і што Бадунова не можа мець ніякага дачынення да савінкаўскага адцення, а з гэтага не можа прынесці (рэальна) шкоды нашай рабоце, лічу неабходным Бадунову і Мамоньку з-пад арышту вызваліць і пакінуць у Мінску (з чэкісцкіх меркаванняў)". Меркаванне аб тым, што лідараў БПРСР не варта выдаваць Маскве падтрымліваў і старшыня ўраду БССР Аляксандр Чарвякоў, паабяцаўшы звярнуцца ў ВЧК з дакладам і вызваліць эсэраўскіх дзеячоў пад сваё паручыцельства[1].

Але вырашыць такое пытанне самастойна кіраўніцтва фармальна незалежнай БССР не магло. 12 сакавіка 1921 г. лідэры Беларускай партыі эсэраў знаходзіліся ўжо ў Маскве. Па загадзе ВЧК Я. Мамоньку змяшчаюць у Лефортава, а П. Бадунову ў Навінскую турму.

Звестак аб тым, як разгортвалася дазнанне па справе П. Бадуновай вельмі мала. З ускоснага дакумента – хадайніцтва ў Маскоўскі Палітычны Чырвоны Крыж паплечніцы Палуты па мінскім школьніцтве Соф'і Шышовай – вынікае, што і праз месяц – 13 красавіка – ёй не толькі не было прад'яўлена абвінавачанне, але нават не адбыўся ніводзін допыт. Такой была метода карных бальшавіцкіх органаў, якія няпэўнасцю імкнуліся давесці арыштаваных да роспачы. У адказ Палута выкарыстала адзіна магчымы ў яе стане сродак супраціву – за месяц яна здзейсніла дзве галадоўкі пратэсту[2]. Хутка ў Мінску стала вядома аб рэзкім пагаршэнні стану здароўя Бадуновай у выніку галадовак і абвастрэння хвароб.

Нягледзячы на імкненні ЧК ігнараваць грамадскія звароты, распачынаецца нялёгкая барацьба за вызва-




[1]НАРБ. Ф. 4, воп. 1, спр. 158, л. 29.
[2]Архіў МУУС. Ф. 8419, адз. зах. 189, л. 103,103-адв.